КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 36 (308) ◂ 21 верасня ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час

ISSN 2218-2144



**НЯСКОРАНЫ**



▸ **З НАГОДЫ**

# РАСКВЕЦІМ ВЫБАРЫ СІЛАЮ

Вольга ХВОІН

**«Спадзяюся, што абстаноўка на выбарах будзе спакойная, разумная, паспяховая», — заявіла ў першы дзень датэрміновага галасавання 18 верасня старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына. У гэты ж дзень невядомыя асобы ў цывільным напалі на дазволены пікет грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду».**




У выніку актывістаў моладзевага крыла «Zмена», якія ладзілі пікет у падтрымку бакоту выбараў, затрымалі, а ў журналістаў «праверылі акрэдытацыю» — фатографу Associated Press Сяргею Грыцу разбілі твар, усіх затрыманых журналістаў завезлі ў пастарунак, знятыя матэрыялы выдалілі, тэхніку забралі. Праўда, потым аддалі, а журналістаў выпусцілі. Выбары пачаліся.

Добрым знакам гэтай выбарчай кампаніі стала кансалідацыя рашэння пра ўдзел у выбарах некаторых палітычных структур. Так, зняць кандыдатаў у дэпутаты да галасавання на знак пратэсту супраць непразрыстасці выбарчага працэсу, наяўнасці ў краіне палітвязняў вырашылі партыі БНФ і АГП. Кіраўніца Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына на гэта адгукнулася негатыўна. «Што тычыцца палітычных заяваў з нагоды «вязняў», цэнзуры і гэтак далей, — заўважыла кіраўнік ЦВК, — усё гэта было і на той момант, калі АГП і БНФ вылучалі сваіх кандыдатаў. Нічога ў краіне за месяц не змянілася, што магло падштурхнуць партыі прыняць падобныя рашэнні. Наадварот, былі прадастаўлены шырокія магчымасці — проста яны імі не карысталіся».

Ісці да фінішнай прамой калегіяльна вырашылі актывісты згаданай вышэй грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» (хаця моладзевае крыло кампаніі «Zмена» падтрымала ідэю байкоту выбараў). У першы ж дзень датэрміновага галасавання быў здзейснены налёт на іх пікет, у выніку якога былі затрыманыя і пацярпелі журналісты, актывісты адправіліся на «суткі». «Мы лічым, што, безумоўна, варта заставацца ў кампаніі, гэта рашэнне прынялі кандыдаты фактычна ў тых жа ўмовах, што ёсць і цяпер. Звярну ўвагу на напад на наш пікет: усе бачылі, як гэта было зроблена — жорстка, нахабна. Гэта робіцца, каб распаўсюджваць страх. Калі мы хадзілі па пікетах, кватэрах, людзі нам казалі, што яны адзін на адзін з дзяржавай, і вось нам важна паказаць, што яны насамрэч не адны. Прыйдзе час, калі нам патрэбныя будуць гэтыя грамадзяне, але яны нам скажуць «да пабачэння». Мы гаворым ім, што ёсць тры спосабы дзеяння — прагаласаваць за дэмакратычнага кандыдата, супраць усіх ці не ісці на выбары ўвогуле. Нашы людзі ў любым выпадку застануцца ў гэтых акругах як альтэрнатыва абраным кандыдатам», — пракаментаваў сітуацыю Андрэй Дзмітрыеў, адзін з лідараў кампаніі «Гавары праўду». Што тычыцца закідаў «Гавары праўду» аб супрацоўніцтве з КДБ ды несалідарнасці з калегамі па цэху, то Дзмітрыеў кажа, што «жаданне знайсці ворагаў унутры апазіцыі, замест таго, каб думаць, што рабіць далей, самае простае». Прадстаўнік грамадзянскай кампаніі адзначыў: «Гавары праўду» працуе для новай большасці, для тых, хто яшчэ сумняваецца. І я падкрэслю, што на працягу ўсёй кампаніі мы ні слова не сказалі пра тых, хто абраў іншую тактыку паводзінаў».

У той жа дзень у Мінску былі затрыманыя аператар «Белсату» Вячаслаў Пяшко і журналіст Валянцін Міхальцоў. Яны запісвалі на вуліцах Мінска апытанне. Да іх падышлі міліцыянты, адвялі ў апорны пункт на вуліцы Кузьмы Чорнага, пратрымалі там некалькі гадзінаў. Журналістаў адпусцілі, але камера засталася ў міліцыянтаў.

Пацярпеў, калі здымаў апытанне на адной з вуліц, і пазаштатны карэспандэнт нашага выдання Мікіта Броўка. Скончыў працу, прысеў на лаўку, трымаючы камеру і мікрафон на каленях, як да яго падышоў невядомы чалавек у цывільным, назваўся супрацоўнікам службы бяспекі, запатрабаваў пасведчанне. Пабачыўшы назву «Новы час», заявіў, што такога выдання не існуе, парваў пасведчанне і сышоў.

Верагодна, млявая выбарчая кампанія цягам апошняга тыдня будзе расквечаная надзвычайнымі паведамленнямі. Бо такіх ціхіх выбараў пры такой абыякавасці да іх насельніцтва яшчэ не было. З'явіліся нават злыя жарты, што давядзецца ўладам нешта экстраардынарнае зладзіць, каб абгрунтаваць нізкую яўку выбарцаў. «Людзі пакуль разварушваюцца. Але, думаю, пенсіянеры пойдуць на ўчасткі, яны любяць галасаваць датэрмінова, — супакойвала журналістаў кіраўніца ЦВК Лідзія Ярмошына. — Шмат тут залежыць ад канкурэнцыі на выбарчым участку. У 2004 годзе парламенцкія выбары праходзілі адначасова з рэферэндумам, і гэта стымулявала яўку. Цяпер, можа быць, не ўсе бульбу выкапалі, таму гэта таксама будзе стымуляваць прагаласаваць датэрмінова». Чыноўніца паведаміла, што, «зыходзячы з практыкі, датэрмінова ў Беларусі галасуе 25–27% выбаршчыкаў». Нагадаем, датэрміновае галасаванне будзе праходзіць на працягу пяці дзён: з 18 па 22 верасня. 23 верасня — асноўны дзень галасавання.

Калі ў Беларусі да выбарчага працэсу грамадзяне абыякавыя, то па заходні бок мяжы прынамсі дзяжурная ўвага мае месца. Але, відавочна, без ілюзій. «Не варта чакаць, што 23 верасня выбары адбудуцца ў адпаведнасці з дэмакратычнымі стандартамі. Дзеючае заканадаўства ў Беларусі не гарантуе свабоднага і справядлівага працэсу, прадухіляе празрыстую працэдуру падліку галасоў, — піша ў policy paper Анаіс Марын, эксперт з Фінскага інстытуту міжнародных спраў. — І, адпраўляючы паўнавартасную назіральную місію ў Беларусь, АБСЕ зноў дае афіцыйнаму Мінску прэзумпцыю невінаватасці. Разарваць заганны круг знешняй легітымацыі рэжыму можна праз узгодненасць і стрыманасць у прадастаўленні выбарчаму фарсу нейкага даверу».

Анаіс Марын мяркуе, што ЕС мусіць найперш рыхтавацца да прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі 2015 года. Увага мусіць быць скіраваная на суб'ектаў грамадзянскай супольнасці, у прыватнасці, мясцовых назіральнікаў за выбарамі. «Уключэнне выбаршчыкаў у вяршэнства права кантралёраў можа павысіць дасведчанасць людзей у працэсах, і попыт на дэмакратыю ўнутры самой Беларусі», — адзначае эксперт Фінскага інстытуту міжнародных спраў.

▸ ГАЛАСАВАННЕ

# ВЫБАРЫ: ПА-ВАЙСКОВАМУ АКУРАТНА І МЭТАЗГОДНА




**Карэспандэнт НЧ Арцём Лява гэтую электаральную кампанію паспрабаваў на зуб з розных бакоў. Спачатку быў кандыдатам у дэпутаты (балатаваўся ад партыі БНФ, якая зняла ўсіх сваіх кандыдатаў да пачатку галасавання), а потым дзяжурыў на выбарчым участку №350 у якасці назіральніка. Прапануем чытачам нататкі з выбарчых палёў.**

У першы дзень датэрміновага галасавання я знаходзіўся на ўчастку з 16 да 19-й гадзіны. За гэты час намер прагаласаваць выказалі восем выбаршчыкаў.

Першае, што кідаецца ў вочы на ўчастку, — гэта стэнд з агітацыйнымі матэрыяламі. Адзін з кандыдатаў заклеены белым аркушам паперы з надпісам «Выбыў». Як з афіцэрскай дакладнасцю патлумачыў старшыня выбарчай камісіі Анатоль Касценевіч, гэта зроблена паводле рашэння Фрунзенскай акруговай камісіі. На пасяджэнні было вырашана зняць кандыдата ў дэпутаты ад Партыі БНФ у адпаведнасці з пратаколам партыйнага з'езду.

Усё ў памяшканні размяшчалася па-вайсковаму акуратна і мэтазгодна. Два фікуса паабапал чырвонай скрыні, вялізны чырвона-зялёны сцяг, закліканы падкрэсліваць урачыстасць моманту, сталы для камісіі побач з сейфам і месцы для назіральнікаў, абачліва адсунутыя бліжэй да дзвярэй, каб было добра бачна спіны выбаршчыкаў, якія распісваюцца ў журнале пасля атрымання бюлетэня. Толькі дзверы, як быццам бы ў падтрымку байкоту, парыпвалі і часам зачыняліся.

Старшыня камісіі на пытанне назіральнікаў пра колькасць выбаршчыкаў на ўчастку і колькасць атрыманых бюлетэняў паведаміў, што ўсе патрэбныя лічбы будуць адлюстраваны ў пратаколе. Ён таксама адмовіўся паказваць спісы выбаршчыкаў і абураўся на спробы сфатаграфаваць збліzку скрыню з бюлетэнямі.

Першы чалавек у часе майго дзяжурства з'явіўся ў 16.30. Акуратны, аздоблены дошкамі гонару і вялізным дзяржаўным сцягам участак выклікаў у выпадковых наведнікаў піетэт. Тыя неяк адразу бянтэжыліся ў такой нязвыклай для публічнага месца атмасферы і далучаліся да агульнага настрою цішыні і абачлівасці.

Падалося забаўным, што сябры камісіі трымалі спісы з выбаршчыкамі на крэсле, схаваным за сталом. Гэтак жа яны шукалі ў спісах прозвішча выбаршчыка, што было досыць нязручна і выглядала трохі камічна. Потым разгорнуты спіс выкладвалі на стол перад выбаршчыкам, каб ён пакінуў свой аўтограф.

Дзесьці ў 17.10 прыйшоў яшчэ адзін выбаршчык. Кожнага старшыня папярэджваў, што адзін з кандыдатаў зняты. Насупраць яго прозвішча ў бюлетэні пазначана «выбыў», і выбаршчык мае права прагаласаваць за аднаго з пакінутых трох.

Да 18 гадзін прыйшла сямейная пара ў гадах і яшчэ два чалавекі. Моўчкі распісваліся, галасавалі, сыходзілі. Падышоў назіральнік ад «Белай Русі», які падаўся добрым знаёмым міліцыянта-ахоўніка. Назіральніца з «Беларускага чырвонага крыжа» сумленна і ціха сядзела ад самага абеду.

У апошнюю гадзіну працы ўчастка галасаваць прыйшла маладая кабета і каларытны барадач. Дзядзька заявіў, што прагаласаваў супраць усіх. На яго думку, дэпутаты не выконваюць сваіх абавязкаў: «Дэпутаты, якія ў нас ёсць, зусім не разбіраюцца ні ў эканоміцы, ні ў палітыцы. Што яны могуць зрабіць з таго, што абяцаюць? Дарожкі вымасціць? Яны законы павінны пісаць перш за ўсё, а не папулізмам займацца. Да байкоту стаўлюся не вельмі добра: гэта ж грамадзянскі абавязак прыйсці і прагаласаваць, выказаць супраць».

Заканчваецца першы дзень галасавання. Старшыня заклейвае шчыліну ў скрыні з бюлетэнямі. На паперы распісваюцца сябры камісіі. Ад прапановы назіральнікаў таксама распісацца старшыня ласкава адмаўляецца. На сцяне вывешваецца пратакол, які трохі азадачыў некаторых назіральнікаў. Колькасць выбаршчыкаў — 1 850, колькасць прагаласаваўшых у першы дзень галасавання — 81(!). «Раніцай касяком ішлі», — няўпэўнена патлумачыў апошнюю лічбу назіральнік з «Белай Русі».

▸ ТУРМА

# УМОВЫ ЯК І Ў 1940-Х

Вольга ХВОІН

**Праваабаронца Алег Волчак праз суд і спецдакладчыка ААН спрабуе дамагчыся змены ўмоў утрымання ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў (ЦІП) у Мінску.**

Сёлета былы следчы, воін-афганец, праваабаронца Алег Волчак двойчы пабываў у ЦІПе быццам бы за нецэнзурную лаянку. Ён кажа, што ўмовы ўтрымання ў ізалятары жахлівыя, але, нягледзячы на кантынгент, які там часта знаходзіцца, ніхто не дае права здзекавацца з людзей. Тым больш ёсць Палажэнне аб матэрыяльным забеспячэнні такіх месцаў, у якім прапісана, што мусіць быць штодзённая прагулка, ложак, коўдра, кожны дзень гарачая вада. «Пасля першай ночы на Акрэсціна я запатрабаваў ложак, коўдру. А мне адказалі, што гэтага няма, каза ёсць вызначаныя правілы. Я напісаў тры заявы, але адказу на іх так і не атрымаў. І вось пасля выхаду з ЦІПа з калегамі з кампаніі «Праваабаронцы супраць катаванняў» мы напісалі адмысловы ліст спецдакладчыку па катаваннях ААН», — распавядае Волчак.

Праваабаронца падаў іск у суд на парушэнне сваіх правоў. Канешне, яму адмовілі, абгрунтаваўшы тым, што гэтым мусіць займацца ЦІП. У верасні ў гарадскім судзе будзе слухацца скарга аб адмове завесці грамадзянскую справу з прычыны абразы годнасці і гонару і адмовы закрыць ЦІП на Акрэсціна да часу, пакуль ён не будзе прыведзены ў адпаведнасць не тое што з міжнароднымі нормамі, а хаця б з беларускім заканадаўствам.

Начальнік аддзела наглядна-выканаўчай дзейнасці ГУУС Купчэня паведаміў праваабаронцу: праверкай па яго скарзе ўстаноўлена, што службовая дзейнасць цэнтра «будуецца на аснове дзеючага заканадаўства пры наяўнасці прынцыповага падыходу да пытанняў кантролю за працай падначаленых». І быццам бы з боку ГУУС праводзіцца мерапрыемстваў, «накіраваныя на паляпшэнне ўмоў утрымання адміністрацыйна арыштаваных і адміністрацыйна затрыманых асоб у ЦІП». Для гэтага ўжо распрацаваны праект рэканструкцыі і мадэрнізацыі будынка цэнтра. Выкананне будаўніча-мантажных работ запланавана на другую палову 2012 года. Аднак Алег Волчак мяркуе, што гэта тыповыя «адмазкі», бо да канца года не так многа часу, а рамонтных прац ніхто і не думаў распачынаць. Паводле дакументаў, рэканструкцыя планавалася яшчэ ў 2009 годзе.

«Я звярнуўся ў апошняй заяве да генпракурора, бо пракуратура горада ігнаруе мае скаргі, і яе супрацоўнікі ні разу не прыйшлі праверыць скаргі ды паглядзець на свае вочы, ці ёсць там ложкі, коўдры, ці выдаюць затрыманым хаця б кавалак мыла ды туалетнай паперы, — тлумачыць Алег Волчак сваю настойлівасць. — Для вязняў ЦІПа забароненыя харчовыя перадачы, вада іржавая, памыцца няма дзе, пацукі бегаюць. Уявіце сабе, як там смярдзіць, калі людзі па 10–15 сутак знаходзяцца ў камеры! Мы спалі ў вопратцы, галаву замотвалі анучай, каб не праскразіла. Пасля войска я навучаны, што захаваць ад холаду ногі дазваляе такі метад: заматаць ногі ў газеты і цэлафанавы пакет. Я чытаў кнігу Сяргея Пясецкага пра турму 1940-х гадоў, дык вось нічога не змянілася ва ўмовах утрымання за гэты час!»

▸ МАНІТОРЫНГ

# ДЗЯРЖАЎНЫЯ СМІ МАРГІНАЛІЗАВАЛІ ВЫБАРЫ

Генадзь КЕСНЕР

**ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» 18 верасня прэзентавала трэці бюлетэнь маніторынгу «Асвятленне парламенцкіх выбараў 2012 года ў беларускіх СМІ» за перыяд ад 2 да 15 верасня.**

Як і раней, дзяржаўныя СМІ не анансавалі радыйныя і тэлевізійныя выступы і ўдзел у дэбатах канкрэтных кандыдатаў, не падавалі іх прозвішчаў і партыйнай прыналежнасці. Апроч таго, як сведчыць медыяэксперт Алесь Анціпенка, запісы выступаў кандыдатаў і дэбатаў так і не з'явіліся на сайтах адпаведных каналаў. Выступы кандыдатаў і дэбаты цэнзураваліся, тэхнічная магчымасць чаго была створаная праз умову іх выхаду ў эфір у запісе, падкрэсліў ён.

Эксперт спасылаўся на дадзеныя, атрыманыя з Аб'яднанай грамадзянскай партыі, паводле якіх у эфір не выйшлі 32 звароты партыйных «спікераў» да выбаршчыкаў. Друкаваныя СМІ не размясцілі на сваіх старонках 11 праграмаў кандыдатаў ад АГП. У той жа час на тэлевізійных і радыёканалах дэбатам папярэднічала «рэклама» той выбарчай акругі, у якой дзейнасць мясцовай улады падавалася ў выключна станоўчым святле. З гэтага вынікае, што прадэманстраваныя ў эфіры відэаролікі і радыйныя прэзентацыі фактычна «працавалі» на карысць праўладнага кандыдата — удзельніка дэбатаў.

Сімптаматычна, што з 13 выбарчых акругаў, якія налічваюцца ў Магілёўскай вобласці, у дэбатах на тэлебачанні ўзялі ўдзел кандыдаты з 4 акругаў, а ў дэбатах на радыё — толькі з 3. Галоўную ўвагу дзяржаўныя медыя працягвалі надаваць Цэнтрвыбаркаму, якому значна саступаюць усе астатнія суб'екты выбарчага працэсу, — адзначае Алесь Анціпенка. — Напрыклад, праграма «Панарама» (тэлеканал Беларусь 1) адвяла ЦВК 40,3 працэнта часу, заходнім назіральнікам — 18,2, назіральнікам з краін СНД — амаль 14, неперсаніфікаванаму кандыдату — амаль 6 працэнтаў. Іншыя суб'екты атрымалі ад 5 да 0,1 працэнта эфірнага часу». Наогул, «Панарама» адвяла тэме выбараў часу меней, чым надвор'ю і спорту (адпаведна — 1,88%, 2,82% і 14,7%). Тое ж тычыцца і іншых дзяржаўных СМІ.

Сярод манітарынгаваных недзяржаўных медыя найбольшую ўвагу выбарчай тэматыцы надавала інтэрнэт-выданне *naviny.by*. Яно асвятляла дзейнасць 31 суб'екта выбарчай кампаніі. «Народная воля» пісала альбо ўзгадвала пра восем дзеючых асобаў выбарчага працэсу, «Наша ніва» — пра шэсць, *«Комсомольская правда в Белоруссии»* («таўстушка») — пра пяць.

«Агульная характарыстыка маніторынгаванага перыяду — гэта практычна татальная адсутнасць у СМІ меркаванняў выбарцаў датычна праграм кандыдатаў ды іхняга стаўлення да сацыяльных, эканамічных і палітычных праблем беларускага грамадства»,— падсумаваў Алесь Анціпенка.

▸ КАНТРОЛЬ

# 700 НАЗІРАЛЬНІКАЎ

**Грамадская кампанія «За справядлівыя выбары–2012» падрыхтавала і накіравала на выбарчыя ўчасткі больш за 1000 назіральнікаў.**

Пакуль немагчыма з дакладнасцю сказаць, колькі з іх падалі дакументы на акрэдытацыю. Вядома толькі, што на 18 верасня, дату пачатка датэрміновага галасавання, назіральнікамі ад кампаніі «За справядлівыя выбары» была атрымана акрэдытацыя болей чым на 700 выбарчых участках. Не здолелі атрымаць акрэдытацыю на 26 участках, галоўным чынам па тэхнічных прычынах — адсутнасці на месцы старшыні, членаў камісіі, неабходных дакументаў і інш.

**Прэс-служба кампаніі «За справядлівыя выбары»**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# УСЕ Ў ЛЕС!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Вось калі б Лукашэнка балатаваўся на гэтых выбарах у парламент, то яго можна было б пахваліць за свядомую пазіцыю адносна выбараў. Ён ведае, што выбары адбудуцца толькі 23 верасня. Ён не ходзіць на датэрміновае галасаванне. І невядома, ці будзе ён галасаваць увогуле. Карацей, робіць усё, што прапанавана апазіцыяй.**



У мэтах забеспячэння аховы правапарадку тэрмінова ўстанаўліваюцца камеры відэаназірання ў месцах знаходжання вялікай колькасці людзей, сумесна з МНС адпрацоўваюцца пытанні прафілактыкі і прадухілення надзвычайных сітуацый

Аляксандр Лукашэнка паводле запрашэння Уладзіміра Пуціна «праўдзе ў Сочы кароткатэрміновы адпачынак», паведаміла 17 верасня прэс-служба прэзідэнта Беларусі. Вечарам 14 верасня Лукашэнка паляцеў у Сочы, а наступным днём ён паразмаўляў з Пуціным. Кіраўнікі дзяржаў правялі сустрэчу ў фармаце «без гальштукаў». Паводле звестак расійскіх СМІ, Пуцін, адкрываючы перамовы, сказаў: «Рады магчымасці размаўляць з вамі, спадзяюся, тут вы з задавальненнем зможаце правесці некалькі дзён».

І Лукашэнка з задавальненнем пагадзіўся. Колькі працягнецца «некалькі дзён», яго прэс-служба не ўдакладняе.

Так што ў краіне зараз няма правадыра. Сапраўды, яму трэба адпачыць пасля таго, як збожжа ўбранае, «барацьба за ўраджай» амаль скончаная перамогай сельскай гаспадаркі над наваколным (і, канешне ж, неспрыяльным) асяроддзем, каровы дояцца, азімыя сеюцца. Чаму б не адпачыць?

Тым больш, што з адпачынку Лукашэнка трапляе адразу на свята. Плануецца, што ён аншчаслівіць усіх сваёй прысутнасцю на «Дажынках–2012», якія гэтым разам пройдуць у Горках 21–22 верасня.

У гэтай сувязі Горкі чакае беспрэцэдэнтнае нашэсце міліцыянтаў. Як паведамляецца, у раёне, дзе запланаваны ўрачыстасці, ужо працуе аператыўна-сітуацыйны штаб. Кантроль становішча будзе ажыццяўляцца кругласутачна. Задзейнічаны падраздзяленні УУС аблвыканкамаў і ГУУС Мінгарвыканкама, вайскоўцы ўнутраных войскаў МУС Беларусі, а таксама супрацоўнікі спецпадраздзялення дарожна-патрульнай службы ДАІ «Страла».

У мэтах забеспячэння аховы правапарадку тэрмінова ўстанаўліваюцца камеры відэаназірання ў месцах знаходжання вялікай колькасці людзей, сумесна з МНС адпрацоўваюцца пытанні прафілактыкі і прадухілення надзвычайных сітуацый. Непасрэдна перад пачаткам мерапрыемстваў сапёрна-піратэхнічныя групы ўнутраных войскаў МУС абследуюць месцы іх правядзення і прылеглыя тэрыторыі. Прапускны рэжым будзе арганізаваны праз кантрольна-прапускныя пункты з выкарыстаннем металадэтэктараў.

На Дзяржаўтаінспекцыю ўскладзена адказнасць за суправаджэнне арганізаваных калон дэлегацый з усіх абласцей краіны, абмежаванне ў выпадку неабходнасці руху аўтамабільнага транспарту ў месцах правядзення святочных мерапрыемстваў. Транспартная міліцыя ўзмацніла ахову грамадскага парадку ў цягніках, на вакзалах і станцыях у Горках і Горацкім раёне. Прадугледжаны неабходныя рэзервы сіл і сродкаў для рэагавання на ўскладненні аператыўнага і дарожнага становішча.

Здаецца, прасцей было б сабраць усіх гараджан на вакзале і вывезці іх у чыстае поле, каб спявалі і «адцягваліся» там, і не псавалі б свята «дэлегатам з усіх абласцей краіны». Фэсты кшталту «опэн-эйр» на адкрытым паветры зараз робяцца ўсё папулярнейшымі. Тым больш, што гасцям і ўдзельнікам фестывалю «Дажынкі–2012» пакажуць сваё майстэрства 3 600 артыстаў. Выступяць як творчыя аматарскія калектывы, так і вядомыя выканаўцы, у прыватнасці Алег Газманаў, Рынат Ібрагімаў, Вера Брэжнева. Горкі трох з паловай тысячаў артыстаў могуць не вытрымаць.

А вось як з «Дажынак» госці будуць раз'язджацца — вялікае пытанне. Каб вывезлі ўсіх у лес на цягніку — то так бы і вярнулі. А так будуць праблемы. Бо 22 верасня ў Беларусі пройдзе міжнародная штогадовая акцыя «Дзень без аўтамабіля».

Беларусь бярэ ўдзел у акцыі з 2008 года. Толькі за адзін дзень правядзення акцыі ў краіне прадухіляецца выкід у паветра як мінімум 250 тон забруджвальных рэчываў, сцвярджае прэс-сакратар Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Вольга Панцялеева.

Паводле яе слоў, летась акцыю падтрымалі ад 13 да 24% насельніцтва ў розных рэгіёнах Беларусі. Колькасць аўтамабіляў на дарогах знізілася ад 8 да 18%. Паводле звестак канцэрна «Белнафтахім», знізіліся аб'ёмы спажытага паліва да ўзроўню таго ж дня тыднем раней, у прыватнасці бензіну — на 12,3%, дызельнага паліва — на 10,4%. Быў прадухілены выкід забруджвальных рэчываў у атмасферу ў аб'ёме прыблізна 300 тон.

Замест выхлапу з машынаў супрацоўнікам міліцыі трэба будзе замерыць алкагольны выхлап удзельнікаў «Дажынак». Цікава, колькі тон посталкагольнага «выхлапу» яны зафіксуюць?

Але беларусам пакуль што прапануюць «піць сваё». У Беларусі ўзмоцнены дзяржаўны санітарны нагляд за ўвозам і рэалізацыяй алкагольнай прадукцыі вытворчасці Чэхіі і Польшчы. Як паведамляецца на афіцыйным сайце Міністэрства аховы здароўя, такое рашэнне прынята ў сувязі з тым, што ў Чэхіі, Польшчы і Славакіі зарэгістраваны выпадкі смерцяў ад атручэння метанолам. Міністэрства аховы здароўя рэкамендуе пры набыцці алкагольнай прадукцыі ў абавязковым парадку запытваць у прадаўца дакументы, якія пацвярджаюць якасць і бяспеку прадукцыі, у тым ліку звесткі аб дзяржаўнай рэгістрацыі.

Гэта не так радыкальна, як у Чэхіі. Там увогуле забаранілі продаж алкаголю, мацнейшага за 20 градусаў. Але ж мы пакуль «п'ем айчыннае». У Беларусі працягвае расці аб'ём продажу гарэлкі. Паводле звестак Белстата, у студзені—жніўні 2012 года рэалізацыя гарэлкі павялічылася на 4,4% у параўнанні са студзенем—жніўнем 2011 года. Прададзена 7 мільёнаў 985,9 тысяч літраў гарэлкі, яе доля ў агульным аб'ёме спажывання алкаголю склала 49,6% (у студзені—жніўні 2011 года — 44,2%).

Доля рэалізацыі алкагольнай прадукцыі ў агульным аб'ёме рознічнага тавараабароту ў студзені—жніўні 2012 года склала 10,6%. На спажывецкім рынку рэалізавана алкагольных напояў і піва на 10,2 трыльёна рублёў.

Так што будзе чым адзначыць нам і выбары, і «Дажынкі», і заканчэнне ўборачнай, і сяўбу азімых. Галоўнае, каб адзначыўшы святы, не апынуцца потым у постсвяточным стане, калі ні грошай, ні здароўя…

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ВІТАЛЬ ГУРКОЎ



Тайбаксёр Віталь Гуркоў у знак пратэсту адмовіўся ад медаля чэмпіянату свету. У фінальным двубоі чэмпіянату свету па тайскім боксе, што прайшоў у расійскім Санкт-Пецярбургу, суддзі спрэчна аддалі перамогу мясцоваму байцу, паведамляе «Еўрарадыё». Гэта рашэнне выклікала хвалю дыскусій. Паводле правілаў тайскага боксу, дзе цэняцца ўдары локцямі і клінч, на думку многіх, перамог беларус Віталь Гуркоў. Расіянін не глядзеўся мяшком, узяў трэці раўнд і нават перабіў нашага байца нагамі, але такога для перамогі ў гэтым відзе спорту зазвычай недастаткова.

На чэмпіянаце свету ў Санкт-Пецярбургу залатыя медалі заваявалі беларусы Андрэй Кулебін (67 кг), Дзмітрый Валент (75 кг) і Дзяніс Ганчаронак (91 кг). Краіна заняла трэцяе агульнакамандное месца.

### ЗЯНОН ПАЗНЯК



Вакол персоны Зянона Пазняка разгараўся скандал. Палітыку высунулі прэтэнзіі з нагоды выхаду яго кнігі «Добрая фатаграфія», дзе скарыстаныя чужыя здымкі без дазволу на тое аўтараў.

Зянон Пазняк у газеце «Наша ніва» аргументаваў, чаму можна карыстацца чужымі фотаздымкі без дазволу аўтараў. «У фатаграфіі мне даводзілася пачынаць у 60-я гады, калі ў савецкай Беларусі фатаграфію зусім не ўспрымалі як мастацтва, калі на фатографаў глядзелі як на «падручных партыі», калі кожную фотавыставу трэба было «прабіваць» з неверагоднымі высілкамі, і рэдка якая выстава праходзіла без таго, каб працы не здымалі па загадзе камуністычных цэнзараў. Я добра памятаю гэтыя часы — і памятаю, як мы цанілі кожнае добрае слова (асабліва друкаванае слова). Добра ведаю, як важная падтрымка творцу — і кіраваўся гэтым пры стварэнні кнігі, — піша Пазняк. — Як я ўжо казаў у прадмове да кнігі, я не імкнуўся паказаць і ацаніць узровень таго ці іншага фатографа альбо пазнаёміць чытача з шэдэўрамі прафесійнай фатаграфіі. Гэта не мая роля. Гэтая кніга — зборнік эсэ пра фатаграфію з фотаілюстрацыямі да разважанняў і з вершамі. Мушу нагадаць, што эсэ — гэта ёсць літаратурна-публіцыстычны жанр, які выяўляе індывідуальныя меркаванні, ацэнкі, аналіз, уражанні і пачуцці аўтара на зададзеную тэму. Жанр гэты вытрыманы ў кнізе паслядоўна. Кніга прысвечана не фатографам, а фатаграфіям, незалежна ад таго кім, як, дзе і калі яны былі знятыя; якія мяне зацікавілі альбо ўразілі».

Шэраг беларускіх фатографаў, чые здымкі патрапілі ў кнігу, з такой аргументацыяй катэгарычна не згодныя, як і з пазначанай крыніцай працаў «вольнае беларускае сеціва».

### ЛЯВОН ВОЛЬСКІ



Гурт «Крамбамбуля» не ўзяў удзелу ў буйным фолк-фэсце «Камяніца». У гутарцы з журналістам «Еўрарадыё» Лявон Вольскі патлумачыў, што выступ гурта скасавалі не самі музыкі. «Што значыць, чыё рашэнне? Ёсць рашэнне — не ведаю, чыё. З арганізатарамі размаўляла дырэктар гурта, я на сябе не магу браць адказнасць і перадаваць, што канкрэтна ёй сказалі арганізатары. Адно магу сказаць: нашым рашэнне не выступаць не было! Мы рашэння — не выступаць — не прымалі. Дый абсалютна лагічны і вельмі просты ланцужок: я і два музыкі з «Крамбамбулі» сыгралі на Управе БНФ у знак салідарнасці з палітвязнямі, і пасля гэтага нешта здарылася з нашым удзелам у «Камяніцы». І нас упікаюць, што мы маглі б перанесці выступ на гэтай «Салідарнасці з палітвязнямі». Гэтыя ўсе калізіі і нейкія падводныя плыні мяне мала цікаваць у цяперашнім маім узросце і маім стане. Калі ў нас такое магчыма, калі народ гэта прымае, то хай так і цягнецца», — заявіў лідар «Крамбамбулі». Таксама Вольскі дадаў, што цяпер за музыкамі з «чорных спісаў» надзвычай моцны кантроль.

«Немагчыма сыграць нават у кавярні. Падключаныя органы, спецыяльны чалавек у адміністрацыі адсочвае гэта. Міністэрства культуры таксама адсочвае — каб культура была правільная. Схема ўсім вядомая, як гэта ўсё працуе. І не трэба рабіць выгляд, што гэтага няма — нават вядомае прозвішча!» — падкрэсліў артыст.

САЛІДАРНАСЦЬ

# АЛЕСЮ БЯЛЯЦКАМУ — 50

**Свой юбілейны дзень народзінаў праваабаронца сустрэне за кратамі — 25 верасня Алесю Бяляцкаму спаўняецца 50 гадоў. Усім, хто не збіраецца абыйсці гэтую падзею бокам, Праваабарончы цэнтр «Вясна» прапануе далучыцца да віншавальнага тыдня.**



Мы мяркуем, што краты не стануць вялікай перашкодай для таго, каб падараваць юбіляру самае каштоўнае — шчырыя і сардэчныя пажаданні, выказаць словы падтрымкі і падзяліцца вераю ў ягонае найхутчэйшае вызваленне.

Для гэтага мы з задавальненнем падкажам вам шэраг магчымасцяў.

1. *Даслаць віншавальную паштоўку на адрас:*
213807 Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул. Сікорскага,1, папраўчая калонія №2, атрад №14. Бяляцкаму Алесю Віктаравічу
2. *Даслаць віншавальную тэлеграму*
Для гэтага можна скарыстацца тэлефоннай паслугай: у Мінску тэлеграмы прымаюцца на нумар 166 (пры адпраўленні тэлеграмы імя па бацьку адрасата ўказваецца абавязкова).
3. *Даслаць віншавальны ліст з дапамогай інтэрнэт-сэрвіса convert.by:*
Пішаце тэкст свайго ліста ў адпаведнай форме на сайце, а каманда валанцёраў адпраўляе гэты ліст за вас абсалютна бясплатна ў папяровым канверце.
4. *Дасылаць свае здымкі з візуалізаваным віншаваннем для Алеся*
на e-mail viasna@spring96.org — гэтыя здымкі будуць змешчаны ў віншавальным буклеце, які таксама будзе дасланы Алесю.
5. *Змяшчаць аватарку з выявай Алеся ў сваіх сацыяльных сетках, заклікаючы тым самым сваіх сяброў і знаёмых далучацца да віншавальнага тыдня.*

**spring96.org**

КРЫЗІС

# ДЭВАЛЬВАЦЫЯ, ЯКОЙ НЕ БУДЗЕ

Вольга ХВОІН

**Кіраўнік Беларусі, а за ім і старшыня Нацбанка загаварылі пра дэвальвацыю, якой не будзе. У абменніках часцяком можна пачуць, што валюты няма, а статыстыка з валютна-фондавай біржы сведчыць пра перавышэнне попыту над прапановай. У суме з заявамі высокапастаўленых чыноўнікаў гэтыя працэсы наводзяць насельніцтва на думку, што крызіс далёка не адышоў ад Беларусі.**

Спачатку Аляксандр Лукашэнка заявіў, што не разумее, адкуль узнікаюць чуткі і здагадкі пра будучую дэвальвацыю беларускага рубля. Аператыўна яго словы пацвердзіла кіраўнік Нацыянальнага банка Надзея Ермакова, заявіўшы, што неабходнасці ў рэзкай дэвальвацыі нацыянальнай валюты ў Беларусі няма. «Нейкай разавай дэвальвацыі не будзе, яна не прадбачыцца, у гэтым няма неабходнасці. Ці будзе плаўная дэвальвацыя? Не выключана, — тлумачыла кіраўніца Нацбанка, ледзьве не цытуючы свайго папярэдніка Пятра Пракаповіча, якога добра запомнілі па крызіснаму 2011 году, і распавяла, што грошай у краіне хапае: — У нас на рахунках прадпрыемстваў назапасіліся вялікія сумы грошай, парадку 4 мільярдаў долараў у дэпазітах, на рахунках насельніцтва маецца шмат валюты. Няма неабходнасці ў рэзкай дэвальвацыі».

Закранаючы магчымы ўплыў росту заработнай платы на эканоміку Беларусі, Надзея Ермакова растлумачыла, што частка заработнай платы, якая выплачваецца ў сацыяльнай сферы, бюджэтнікам, ужо зробленая. Яна залежыць ад той прадукцыйнасці працы, якая была, і паступіла ў бюджэт. Усе астатнія прадпрыемствы павінны зарплату зарабіць. Пры гэтым варта адназначна выконваць прынцып апераджальнага тэмпу росту прадукцыйнасці працы над тэмпамі росту заработнай платы. «Я думаю, што абвалу не павінна быць», — супакойвае Надзея Ермакова.

З такой пастаноўкай пытання не згодныя незалежныя аналітыкі. Так, эканаміст Леанід Злотнікаў падкрэслівае, што Беларусі няма з чаго падвышаць заробак да запаветных 500 долараў. Ён звяртае ўвагу на прыкрытую «лавачку» па гандлі «раставаральнікамі», з-за чаго бюджэт дзяржавы страціць блізу двух мільярдаў долараў даходаў штогод. Цяпер жа краіна знаходзіцца перад выплатай абавязкаў сваім крэдыторам, а імклівага росту ВУП, з чаго б можна было цягнуць грошы, таксама няма. «Прадукцыйнасць працы на макраўзроўні складае 2,5%, што адпавядае папярэдняму росту ВУП Беларусі», — тлумачыць эканаміст.

Разам з тым кіраўніцтва краіны не пакідае спробаў знайсці знешнія крыніцы фінансавання. Так, у кастрычніку Беларусь мае намер аднавіць перамовы з Міжнародным валютным фондам на прадмет фінансавага супрацоўніцтва. Цяпер абмяркоўваецца аднаўленне перамоваў. Беларусь прыме ўдзел у штогадовым сходзе МВФ і Сусветнага банка, які пройдзе ў кастрычніку ў Токіа. Беларусь заявіла, што будзе ўдзельнічаць у шэрагу сустрэч. Таксама ў кастрычніку ў Беларусь прыедзе місія, і тады зноў будуць весціся перамовы.

Па словах кіраўніка Нацбанка, прапановы Рэспублікі Беларусь на адрас МВФ засталіся ў сіле. Разам з тым Ермакова адзначыла, што місія, якая наведвала Беларусь гэтым летам, паказала на існаванне палітычнага пытання. З сакавіка 2010 года МВФ па праграме *«Stand-by»* выдзеліў Беларусі каля 3,46 мільярда долараў крэдыту.

Што тычыцца пагрозы валютнага дэфіцыту, то ў жніўні назіралася перавышэнне попыту над прапановай на валютнай біржы. Гэтыя працэсы маюць працяг і ў верасні. Прычым нельга апеляваць толькі да летняга сезону адпачынкаў, бо сумы, якія набываюць прыватныя асобы, не настолькі ўнушальныя, каб справакаваць крызіс. Рост даходаў грамадзян і недавер да айчыннай эканамічнай сістэмы спрыяюць захоўванню грошай у цвёрдай валюце, увазе да імпартных тавараў, што негатыўна адбіваецца на валютным рынку краіны, дапаўняючы праблемы ад перакрытых крыніц валютных паступленняў ад знешняга гандлю.

АБЯЦАННІ

# ПРАДПРЫМАЛЬНІК ВЫРАС У ЦАНЕ

**У наступным годзе Беларусь разлічвае прыцягнуць не менш як 4,5 мільярда долараў прамых замежных інвестыцый. Аналагічныя планы на два папярэднія гады былі з трэскам праваленыя.**

На цырымоніі ўручэння прэміі «Лепшы прадпрымальнік 2011 года» прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч заявіў, што ў 2013 годзе Беларусь разлічвае прыцягнуць не менш як 4,5 мільярда долараў прамых замежных інвестыцый. «Вельмі добра, што і ў гэтым годзе прыватны сектар дэманструе даволі добрыя паказчыкі па прыцягненню прамых замежных інвестыцый на чыстай аснове», — адзначыў прэм'ер-міністр.

«Для нас кожны сумленны прыватны прадпрымальнік — гэта свой чалавек, — заявіў прэм'ер-міністр. — Ён нам не менш дарагі, чым дзяржаўнае прадпрыемства, і заўсёды знойдзе падтрымку ва ўладных структурах». Паводле яго слоў, мэта прадпрымальніка — эфектыўная дзейнасць. «Ствараюцца новыя прадукты і паслугі, уводзяцца новыя працоўныя месцы, у канкурэнтнай барацьбе нараджаюцца інавацыі, якія з'яўляюцца асновай эканамічнага прагрэсу», — сказаў прэм'ер-міністр.

Ён запэўніў, што на прадпрымальнікаў урад робіць стаўку і ў бягучым годзе, у 2013 годзе і наступных гадах. «Мы не проста дэкларуем сумесную з бізнэс-супольнасцю дзейнасць, а ствараем і замацоўваем у нарматыўных прававых актах новыя эканамічныя ўмовы развіцця бізнэсу», — адзначыў Мясніковіч.

Паводле яго слоў, «найважнейшым прыярытэтам ёсць і будзе экспарт». У наступным годзе неабходна экспартаваць беларускіх тавараў на 53 мільярда долараў, у бягучым годзе гэты паказчык павінен скласці каля 45 мільярдаў долараў. Гэта значыць, што 60% прамысловай прадукцыі і 20% сельскагаспадарчай прадукцыі павінна быць пастаўлена на экспарт. «Па-іншаму ў нас не складаецца эканоміка», — адзначыў Мясніковіч.

Для экспартна арыентаванага бізнэсу будуць не проста спрыяльныя, а суперільготныя ўмовы, падкрэсліў ён. У бюджэце прадугледжана прыкладна 400 мільярдаў рублёў на кампенсацыю працэнтных ставак па экспартных крэдытах. Будзе павялічана экспартнае крэдытаванне да 0,5 мільярда долараў, будзе развівацца інфраструктура падтрымкі экспарцёраў, скарочаны тэрмін вяртання ПДВ і колькасць пацвярджаючых дакументаў.

Як адзначыў Мясніковіч, у 2013 годзе будзе бездэфіцытным бюджэт і жорсткая грашова-крэдытная палітыка. Тэмпы інфляцыі мяркуецца трымаць на ўзроўні 12%, стаўка рэфінансавання «будзе падтрымліваецца на дадатным узроўні ў рэальным выражэнні ў сярэднім каля 15% гадавых». Прырост ВУП запланаваны на ўзроўні 8,5%. Плануецца дадатнае сальда знешняга гандлю.

Урад на 2012 год заклаў 2 інвестыцыйныя задачы: прыцягнуць 2,5 мільярда долараў за кошт прыватызацыі і 1,2 мільярда долараў атрымаць за кошт прыцягнення прамых замежных інвестыцый на чыстай аснове (без уліку пазык).

**БелаПАН**

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# КАРПАРАЦЫЯ «ДРАЗДЫ»

**Падчас сустрэчы з урадавым і банкаўскім чыноўніцтвам А. Лукашэнка ў чарговы раз прапанаваў зрабіць рэвалюцыю выдаткаў. Маўляў, няхай багаты чалавек аплачвае 120–150% ад кошту камунальных паслуг, а бедны, з якога сёння няма чаго ўзяць, — 25–30%.**




Адзначым, што прапанова, як і многія, што належаць гэтаму палітыку, радыкальная, але ці не пашырыць яе? Прыкладам, утрыманне вулічных ходнікаў фінансуецца з бюджэту, а не самімі пешаходамі. Непарадак. З бедны мі ўсё зразумела, з іх шмат не возьмеш, хаця большасць з іх рассякае родныя прасторы выключна пехатой. Але ж і багацеі рэгулярна вылазяць са сваіх «шасцісотых мерынаў», каб зайсці ў офіс, рэстаран, казіно. Для іх можна завесці дадатковыя платныя камунальныя паслугі, пра аплату якіх можа сведчыць, прыкладам, нейкі вельмі адмысловы флікер на спіне. Каб здалёк было бачна кожнаму міліцыянту.

А чаму ніхто з урадаўцаў не падумаў наконт грамадскіх прыбіральняў, дзе з багатых, як каторага прыпячэ, можна тры скуры драць.

Можна ўзяць на ўзбраенне і знакамітую прыдумку сярэднявечча. Зараз яна ўжываецца выключна па палітычных матывах і дзейнічае абмежаваны тэрмін. Маюцца на ўвазе грашовыя штрафы, якія вымагаюцца ў людзей па пратаколах аб парушэнні статус-кво як актыўнымі, так і пасіўнымі дзеяннямі, як за відавочны, так і за латэнтны супраціў. Заплаціць такі небарака штраф, і цалкам гатовы да чарговай адміністратыўнай экспрапрыяцыі. Зразумела, справа патрэбная, але сумная — усё роўна што пячкуроў лавіць для завадской сталоўкі. Калі ж багатым даваць індульгенцыю кшталту доўгатэрміновай ліцэнзіі на права дыхаць гарадскім паветрам, то шмат якія праблемы можна да лепшых часоў вырашыць. Пакуль сённяшнія жабракі не стануць такімі ж заможнымі.

Вядома, што сацыялізм быў пабудаваны не толькі ў СССР, але і ў той жа Польшчы. Польская яго разнавіднасць часта давала смяяцца з сябе. Палякі прыдумалі жарт наконт таго, што чым болей жывеш у сацыялістычнай краіне, тым больш ёй вінен: за кватэру не даплачваеш, за грамадскі транспарт — таксама, вучышся бясплатна і лечышся таксама бясплатна. І чым больш вучышся, тым больш даводзіцца лячыцца.

Зразумела, зараз у нас не такі сацыялізм, а крышку абноўлены — падобны да таго, які быў у Венгрыі пры Янашы Кадары. Такая-сякая прыватная ініцыятыва існуе, частка людзей мае магчымасць набыць патрыманы легкавік і трамваем не карыстацца. Але ж калі-нікалі карыстацца ўсё ж даводзіцца. Чаму б для аўтамабілістаў не ўвесці спецыяльны «трамвайны падатак», параўнальны (гэта можна вызначыць статыстычна) з выдаткамі на эксплуатацыю вышэйзгаданых «шасцісотых мерынаў».

Як адзначаў класік, не дазваляй душы ленавацца. Хай яна працуе дзень і ноч. Як, прыкладам, гэта робяць класічныя арганізаваныя злачынныя групоўкі. Іх кіраўніцтва дакладна вызначае, хто якімі багаццямі на падманатнай тэрыторыі валодае, і адпаведна прызначаецца індывідуальная справядлівае падаткаабкладанне. А людзей бедных, з якіх няма чаго ўзяць, увогуле не турбуюць. Так дзейнічае вертыкаль эфектыўнага кіравання.

У нас вертыкаль таксама адбудаваная, але дзейнічае не так бездакорна. Вось і зараз галоўны над вертыкаллю паўшчуваў падначаленых, што размовы пра індывідуальны падыход да кампенсацыі камунальных выдаткаў ідуць даўно, а ўрад у той бок нават не варушыцца. І зрабіў выснову, што ўрадаўцы — «не бедныя» і палохаюцца перспектывы плаціць 120%. І тут жа, як паведамляе «Інтэрфакс», паабяцаў даць ім дадатковыя грошы, каб яны маглі заплаціць.

Зразумела, астатнім «багацеям» ніхто дадатковых грошай не дасць. Больш важна, што перад намі класічны прыклад карпаратыўнай этыкі. Маўляў, з Драздоў выдачы няма. Як калісьці з Дона. Калі хтосьці не парушыць субардынацыю. Але і не ў гэтым справа. Для індывідуальнага вырашэння агульных праблем трэба дакладна ведаць персанальны склад аб'ектаў уздзеяння і іх агульную колькасць. Бо можа такое стацца, што багатыя, замест таго, каб пакрыць выдаткі жабракоў, самі запішуцца ў сацыяльна неабароненых. Прыхаваюць набыткі да лепшых часоў, пакінуць свае хлебныя пасады ды зоймуць чаргу за адраснай дапамогай.

Чаму такая небяспека існуе? Згодна з афіцыйнай статыстыкай, багатымі ў нас дастаткова ўмоўна можна лічыць тыя блізу 5% работнікаў, якія афіцыйна атрымліваюць больш за 500 долараў. Калі з гэтай колькасці выключыць чыноўніцтва, якому выдадуць дадатковыя «кватэрныя», застанецца зусім не шмат. А яшчэ трэба выключыць тых, хто мае дзяцей, бо большасць сем'яў з дзецьмі жыве не лепей за сярэдніх пенсіянераў.

Застанецца багацеяў кату па пяту. І акажацца, што гэта дастаткова нешматлікая супольнасць лакалізавана ў даволі абмежаванай прасторы, пачынаючы з Драздоў ды іншых спецпасяленняў слуг народа, якія маюцца ў кожным раёне.

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# НЯПЭЎНАСЦЬ ЖЫЦЦЯ

Сяргей НІКАЛЮК

**Грамадства, якое не здольнае здабываць прыбытак з непрадказальнасці, асуджана атрымліваць страты ад стабільнасці.**



Чарговую «Азбуку паліталогіі» я пачну з цытаты, запазычанай у расійскага сацыёлага Георгія Сатарава: «Як вы думаеце, чаго больш за ўсё баяцца гэтыя, там? Даю падказку. Вось словы Пуціна: «Жыццё, на самай справе, вельмі простая рэч». Справа не ў тым, верыць ён у гэта ці не. Ён хоча верыць у гэта. Бо іншае палохае яго. Бо супрацьлеглае — складанасць, разнастайнасць, непрадказальнасць, хаос, усё, што ўласціва грамадзянскай супольнасці, усё, што спараджае развіццё, новае жыццё, новую думку — усё тое забівае прадстаўнікоў гэтага віду».

Каго канкрэтна сацыёлаг адносіць да прадстаўнікоў «гэтага віду», здагадацца нескладана, як нескладана скласці беларускі варыянт спісу тых, хто палохаецца разнастайнасці і непрадказальнасці.

Эвалюцыя, у тым ліку і сацыяльная, ідзе па шляху нарастання складанасці і разнастайнасці. У наш час такое ўскладненне амаль заўсёды суправаджаецца зменай палітычных эліт. Але калі для іншых народаў вырашэнне лёсу сваіх урадаў і прэзідэнтаў даўно стала палітычнай руцінай, то ў нас гэтыя працэсы ператвараюцца ў праблему існавання дзяржавы як такой.

Паглядзіш тэлевізар — складаецца ўражанне, што альтэрнатывай цяперашняй палітыцы і камандзе, якая яе ажыццяўляе, у Беларусі можа быць толькі хаос. У сваёй кампутарнай бібліятэцы я знайшоў дзясяткі адпаведных цытат адзінага палітыка (АП). Абмяжуюся адной: *«Оппоненты власти призывают нас перейти от эволюционного созидания к радикальным реформам и революциям. Этот зуд перемен не от большого ума. Ведь они не хотят понять, насколько тонка грань, отделяющая мирную жизнь от кровопролития и бессмысленной жестокости, стабильность — от хаоса и анархии»*.

## Які спосаб эфектыўней?

Чэмпіянат свету па футболе 1966 года ў Лондане быў першым, які паказалі **ў нас** па тэлебачанні. Матчу адкрыцця (Англія—Уругвай) папярэднічала выступленне зборнага аркестра. Музыкі не толькі выконвалі мелодыі, але і ўмудраліся адначасова маршыраваць. Якім чынам дасягалася ўзгодненасць дзеянняў двухсот чалавек? Адказ на гэта пытанне просты: у музыкаў быў дырыжор. Аркестр — класічны прыклад сацыяльнай сістэмы, каардынацыя дзеянняў у якой дасягаецца камандна-адміністратыўным метадам (ёсць начальнікі, ёсць падначаленыя — першыя аддаюць каманды, другія іх выконваюць).

Але вось аркестр завяршыў сваё выступленне, і на поле выйшлі футбалісты. Футбол — гульня калектыўная, а калектыўныя дзеянні патрабуюць каардынацыі. Зразумела, што магчымасць трэнера непасрэдна кіраваць гульцамі на полі вельмі абмежаваная, тым не менш у свеце хапае футбольных клубаў, здольных гуляць «як машыны».

Але якім чынам дасягаецца каардынацыя такіх «машын»? Галоўная крыніца каардынацыі — агульныя правілы, выконваць якія абавязаныя ўсе. Уяўляеце, што было б, калі б адна каманда выйшла на поле гуляць у футбол, а іншая — у рэгбі! Аднак парушэнні правіл непазбежныя, таму за іх выкананнем сочыць брыгада незалежных суддзяў. Наступны момант — асабістая зацікаўленасць футбалістаў у канчатковым калектыўным выніку. Футбалісты-прафесіяналы зарабляюць немалыя грошы і атрымліваюць паводле сваёй працы, вось і даводзіцца ім бегаць па полі ўсе 90 хвілін і ўвесь час праяўляць уласную ініцыятыву (адкрывацца, даваць пасы).

Звярніце ўвагу, у першым выпадку вынік сумесных дзеянняў залежыць ад гатоўнасці падначаленых дакладна і своечасова выконваць каманды, а ў другім — ад здольнасці чальцоў калектыву браць адказнасць на сябе і дзейнічаць самастойна.

Які спосаб каардынацыі больш эфектыўны? Адназначна адказаць на гэта пытанне нельга. Усё залежыць ад кантэксту. Але тэорыя гульняў падказвае, што калі ты гуляеш з супернікам з выпадковай стратэгіяй, то твая аптымальная стратэгія можа быць толькі выпадковай.

На эканамічнай пляцоўцы, абмежаванай дзяржаўнай мяжой Рэспублікі Беларусь, паводле апошняй справаздачы Белстата, у чэрвені «гуляла» 4 550,5 тысячы чалавек. Яны былі аб'яднаныя ў дзясяткі тысяч калектываў, якія гулялі не толькі паміж сабой, але і з калектывамі па-за межамі краіны. Такі кантэкст. Чытач мае права сам вызначыць, які з двух апісаных вышэй спосабаў каардынацыі будзе ў нашым выпадку больш эфектыўны.

## Супрацоўніцтва vs. канкурэнцыя

Зноў звярнуся па дапамогу да Георгія Сатарава: «Ключавая розніца паміж Усходам і Захадам палягае ў наступным: дэмакратыя інстытуцыялізуе выпадковы пошук з вельмі кароткім крокам, роўным тэрміну паміж выбарчымі кампаніямі. Калі ідэолагі дэмакратыі кажуць, што ў выбарах галоўнае — гэта нявызначанасць выніку, то насамрэч гаворка ідзе менавіта пра тое, што ў нас павінна захоўвацца істытуцыянальная магчымасць выпадковага пошуку кірункаў». Калі казаць прасцей, дэмакратыя — гэта прылада, якая дазваляе выбудоўваць выпадковыя стратэгіі ў адказ на ўнутраныя і знешнія выклікі.




Чалавечыя веды, пра што пісаў яшчэ Адам Сміт, распыленыя. Ён адзначаў: «Відавочна, што кожны чалавек, у залежнасці ад мясцовых умоваў, можа значна лепш вырашыць, да якога менавіта кшталту айчыннай прамысловасці прыкласці свой капітал і прадукт якой прамысловасці можа валодаць найбольшым коштам, чым тое зрабіў бы замест яго любы дзяржаўны дзеяч».

«Даследаванне аб прыродзе і прычынах багацця народаў», з якога я запазычыў цытату, было ўпершыню апублікавана ў 1776 годзе, але ў Беларусі рашэнні пра тое, «да якога менавіта кшталту айчыннай прамысловасці прыкласці свой капітал» і сёння часцяком прымаюць не бізнэсоўцы, якія рызыкуюць уласнымі грашыма, а дзяржаўныя дзеячы (дзеяч). Нескладана здагадацца, чыімі грашыма яны (ён) пры гэтым рызыкуе.

У якасці ілюстрацыі да цытаты з класіка палітэканоміі згадаю сучасную гісторыю. Калі да Піначэта прыйшлі эканамісты з прапановай адкрыць эканоміку (усталяваць нізкія мыты), ён спытаў іх, што Чылі будзе экспартаваць акрамя медзі, якую і так ужо экспартуе. Эканамісты адказалі: «Не ведаем, і менавіта таму трэба адкрываць эканоміку».

Што лепш — супрацоўніцтва (кааперацыя) ці канкурэнцыя? На ўзроўні азбукавых ісцін адказ можна сфармуляваць наступным чынам: у малых групах, калі ўсе ўсё пра ўсіх ведаюць, перавагу варта аддаваць супрацоўніцтву, але ва ўмовах адкрытай эканомікі, калі даводзіцца бесперапынна прыстасоўвацца да незнаёмых акалічнасцяў, канкурэнцыя робіцца, так бы мовіць, па-за канкурэнцыяй. Падмацую сказанае аўтарытэтам нобелеўскага лаўрэата Фрыдрыха Хаека: «Канкурэнцыя ўяўляе сабой працэдуру адкрыцця, пазнавання новага — працэдуру, уласцівую эвалюцыі ва ўсіх яе формах, якая прымушае чалавека апроч уласнай волі ўпісваца ў новыя сітуацыі. І менавіта за кошт нарастаючай канкурэнцыі, а не за кошт салідарнасці, паступова павялічваецца наша эфектыўнасць».

Сёння без згадак пра канкурэнцыю не абыходзіцца ніводны выступ АП на эканамічную тэму. Ды і як можа быць інакш, калі экспарт складае больш за 60 працэнтаў ВУП? Але тое, чаго не магчыма пазбегнуць «у сусветным маштабе», АП спрабуе зрабіць у межах Беларусі і інтэграцыйных аб'яднанняў з Расіяй. Адсюль шматлікія холдынгі і пастаянныя заклікі *«прекращать конкурировать друг с другом хотя бы в рамках Таможенного союза»*.

## Новы клас?

Галоўная характарыстыка беларускіх выбараў — іх прадказальнасць. Дзеля яе забяспечэння кожная выбарчая кампанія рыхтуецца ўладай у рэжыме спецаперацыі. Склад выбарчых камісій — ключавы момант, таму фармаванне камісій па ўказанні АП праводзіцца ў Беларусі, *«как того требует закон, открыто, с участием политических партий и общественных организаций»*. Партыйцаў, аднак, уключаюць у камісіі *«независимо от их политических взглядов»*, але толькі з ліку *«достойно зарекомендовавших себя при проведении прежних избирательных кампаний»*. Што да тых, *«кто ранее способствовал дезорганизации выборов»*, то яны, натуральна, *«не должны получить второго такого шанса»*.

Аналагічную заяву зрабіла сёлета і «член каманды Лукашэнкі» старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына: «Нармальныя, добрыя, вартыя людзі, якія сябе добра зарэкамендавалі падчас апошніх выбараў, думаю, патрапяць. А вось тыя, хто ладзіў скандалы і разборкі... У мяне не ўздымецца рука загадаць хоць камусьці ўключаць у склад камісіі чалавека, які піў кроў выбарчай камісіі на папярэдніх выбарах. Таму — усё залежыць ад таго, хто будзе вылучаны».

У Беларусі каля 70 тысяч чалавек уваходзяць у склад толькі ўчастковых камісій. Гэта спрэс «нармальныя, добрыя, вартыя людзі», шмат хто з іх падлічвае нашы галасы з 1996 года. Таму можна смела сцвярджаць, што ў краіне сфармавалася своеасаблівая сацыяльная група — сябры выбарчых камісій. Пры жаданні ў гэтай групе можна разгледзець зародкі новага класа, калі адкінуць марксісцкі падыход, які суадносіць паняцце «клас» з сацыяльнай супольнасцю, што вызначаецца паводле адносін да ўласнасці і да грамадскага падзелу працы. Але акрамя Маркса ёсць не меней аўтарытэтная крыніца ў асобе Вебера, які вылучаў поруч з эканамічнымі крытэрамі і сацыяльны статус, што дазваляе індывіду заняць адпаведнае месца ў сацыяльнай іерархіі.

Але вернемся да пачатку артыкула. Непрадказальнасць — абавязковая ўмова развіцця сацыяльных сістэм. Яна дазваляе мільёнам людзей метадам спроб і памылак выбудоўваць эфектыўныя асабістыя стратэгіі, але ў межах агульнай сістэмы нормаў і правіл. Тое, што з вяршыні ўладнай «вертыкалі» ўспрымаецца як хаос, на самай справе — жыццё, у якім гарызантальныя сувязі паміж людзьмі пераважаюць над сувязямі вертыкальнымі.

Сябры выбарчых камісій, якія забіваюць непрадказальнасць, руйнуюць будучыню не толькі тых, хто не падтрымлівае ўладу, але і сваю ўласную, бо калі грамадства не здольнае здабываць прыбытак з непрадказальнасці, яно асуджана атрымліваць страты ад стабільнасці. Згадаем лёс СССР.

## 30 верасня, нядзеля

**Беларусь 1**

**06.20** Лірычная меладрама «Вясна на Зарэчнай вуліцы» (СССР).
**08.00** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**08.30** Медычныя таямніцы.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Ведай нашых.
**09.50** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія).
**10.55** Тэлефільм цыклу «Лёс гігантаў».
**11.25** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.10** Культурныя людзі +.
**13.05** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Прыгодніцкі фільм-фэнтэзі «Зорны пыл» (ЗША).
**17.50** Заўтра - гэта мы!
**18.20** Каробка перадач.
**18.55** Баявік «Місія невыканальная» (ЗША).
**21.00** «У цэнтры ўвагі».
**21.55** Тэлефільм АТН цыклу «Журналісцкае расследаванне».
**22.30** Меладрама «Клуб першых жонак» (ЗША).
**00.20** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія).

**АНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.25** Прэм'ера. «Куміры. Алег Яфрэмаў».
**13.30** Камедыя «Адпачынак за свой рахунак».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера «З каханымі не растаўайцеся!».
**17.20** АНТ прадстаўляе: «Рыцарскі турнір у Мірскім замку».
**18.00** Камедыя.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Вялікая розніца ў Адэсе. Фэст гумару.
**23.05** Прэм'ера сезону. «Насця». Вячэрняе шоў.
**00.05** АНТ прадстаўляе: Гандбол. Ліга чэмпіёнаў.

**СТВ**

**06.20** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**07.10** «Далёкія сваякі».
**07.25** «Салдаты-14». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «100 адсоткаў».
**10.00** «Вялікі сняданак».
**10.40** Фільм «Чатыры пяра». ЗША-Вялікабрытанія, 2006 г.
**12.55** «Добры дзень, доктар».
**13.25** Фільм «Неверагодныя прыгоды італьянцаў у Расіі». СССР-Італія, 1973 г.
**15.15** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Светлячкі ў садзе». ЗША, 2008 г.
**22.35** «Пякельная кухня».
**00.00** Фільм «Апошняе лета ў Бойтэ». Аргенціна-Іспанія-Францыя, 2009 г.

**Беларусь 2**

**07.30** Камедыя «Сем нянек» (СССР).
**09.05** Камедыя «Змывайся» (ЗША).
**10.45** Тэлебарометр.
**10.50** Школа рамонту.
**12.00** Вышэй за дах.
**12.35** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.40** Драма «Трэнер Картэр» (ЗША).
**16.20** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**16.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**19.20** Суперлато.
**20.05** Спорт-кадр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.45** Меладрама «Перакрыжаванне» (ЗША).
**23.35** Шоў «Суперінтуіцыя».

**Россия**

**07.00** Фільм «Выпрабаванне адданасцю» (2012 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.15** Тэлесерыял «Блудныя дзеці».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Юры Любімаў».
**15.15** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.20** Фільм «Развітанне з Пецярбургам».
**18.10** Вялікі святочны канцэрт.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Фільм «Восеньскі ліст» (2012 г.).
**23.15** «Нядзельны вечар».

**НТВ**

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Муж і жонка».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Жывуць жа людзі!».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.55** «Дачны адказ».
**12.00** «Развод па-руску».
**13.00** Сёння.
**13.15** Фільм «Бамжыха-2».
**15.05** «Таямнічая Расія».
**16.00** Сёння.
**16.20** Следства вялі.
**17.10** «І зноў добры дзень!».
**18.05** «Бывае жа такое!».
**18.30** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**20.00** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**21.50** «Таемны шоў-бізнэс».
**22.55** Ток-шоў.
**23.50** Крымінальны трылер «Амерыканскія горкі».

**Eurosport**

**09.30** Вось дык так!!!
**09.45** Марафон. Берлін.
**12.30** Футбол. Чэмпіянат свету сярод гульцоў да 17 гадоў. Азербайджан. Групавы этап. Новая Зеландыя - Бразілія.
**14.00** Аўтаспорт. Сусветная серыя Рэно. Францыя. Заезд 1.
**14.45, 22.30** Скачкі на лыжах з трампліна. Летні гран-пры.
**16.30** Аўтаспорт. Сусветная серыя Рэно. Францыя. Заезд 2.
**17.30** Футбол. Чэмпіянат свету сярод гульцоў да 17 гадоў. Азербайджан. Групавы этап. Германія - Уругвай.
**19.00** Футбол. Чэмпіянат свету сярод гульцоў да 17 гадоў. Азербайджан. Групавы этап. Кітай - Гана.
**20.30** Бокс.
**23.40** Тэхналогія чэмпіёнаў. Часопіс.
**23.45** Мотаспартыўны уікэнд.
**00.00** Ралі. IRC. Балгарыя. Агляд.
**00.30** Настольны тэніс. Мужчыны. Кубак свету. Ліверпуль.
**02.30** Тэхнічны перапынак.

**Белсат tv**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак.
**07.45** «Школа на санцапёку», серыял: 12 серыя.
**08.10** «Мой родны горад», серыял: 33 серыя.
**08.35** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**09.05** Зона «Свабоды».
**09.35** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**10.15** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**10.45** Сальда (эканамічная праграма).
**11.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**11.25** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**11.45** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**12.05** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Аповеды таты Бабра».
**12.35** «Школа на санцапёку», серыял: 13 серыя.
**13.05** «Мой родны горад», серыял: 34 серыя.
**13.30** «Глыбокая вада», серыял: 3 серыя.
**14.15** «Беларуская мара», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**15.15** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**15.25** «Найвышэйшая мера», 2012 г., Беларусь.
**16.00** «Удзельнікі турпаездкі», камедыя, 2006 г., Чэхія.
**18.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.25** Два на два (тэледыскусія).
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра.
**19.05** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Таямніца Гайнрыха Гімлера».
**19.55** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**20.15** Дакументальная гадзіна: «Менск ад золку да змяркання», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.15** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.45** Форум (ток-шоу).
**22.35** Фільматэка майстроў: «Джэйн Остэн», маст. фільм, 2007 г., Вялікабрытанія.
**00.40** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.55** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**01.10** «Бульбаны», мультсерыял.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

ЦІКАВА

# ГРЭЧАСКІ ВЕЙМАР

**Да ўсіх шматлікіх праблем Грэцыі апошнім часам дадалася яшчэ адна — актывізацыя правай радыкальнай партыі «Залаты світанак». Пра феномен грэчаскага неафашызму міжнародны аглядальнік «Новага часу» Алег Новікаў размаўляе з афінскім журналістам Гіоргасам Мітраліясам.**



Танны папулізм: грэчаскія неафашысты з партыі «Залаты світанак» раздаюць ежу па пашпартах

***— Не так даўно кіраўніцтва Еўрасаюза зрабіла незвычайную заяву — прапанавала ўраду Грэцыі забараніць партыю «Залаты світанак» у сувязі з тым, што яе дзейнасць пагражае інстытутам дэмакратыі. Такое патрабаванне чамусьці ніколі не гучала на адрас урадаў Аўстрыі або Францыі, дзе правыя экстрэмісты — не толькі заўважаная ў грамадстве сіла, але нават прадстаўленыя ў органах улады. У чым, на вашу думку, асаблівасць грэчаскай сітуацыі?***

— Партыя «Залаты світанак» (або па-грэчаску «Хрысі аўгі») не падобная на еўрапейскія партыі накшталт французскага «Нацыянальнага фронту» або аўстрыйскай «Партыі Свабоды». «Залаты світанак» — цалкам антысістэмны рух, які робіць стаўку на акцыі вулічнага тэрору. Колькасць забітых імі ўжо складае амаль дзясятак чалавек. Пры гэтым кіраўніцтва арганізацыі не хавае, што капіруе практыку нацысцкіх штурмавікоў. Так, на днях упершыню ахвярамі нападу актывістаў сталі інваліды ў калясках. Проста сябры «Залатога світанку» недзе прачыталі, што Гітлер адмаўляў інвалідам у праве на жыццё як асобам, які не адпавядаюць стандарту сапраўднага арыйца.

***— Як атрымалася так, што ў Грэцыі стала магчымай вакханалія правага тэрору? Чаму паліцыя папросту не арыштуе ўдзельнікаў нападаў на эмігрантаў, на цыган — асноўных ахвяр правага тэрору?***

— Грэцыя — гэта асаблівая краіна, калі гаворка ідзе пра заканадаўства супраць прапаганды нацызму. Гэта звязана з некаторымі старонкамі нашай гісторыі. У снежні 1944 года, пасля вызвалення брытанцамі Грэцыі ад нацыстаў, Уінстан Чэрчыль адным росчыркам пяра даў амністыю ўсяму грэчаскаму корпусу СС. На базе эсэсаўскіх атрадаў была створана ўрадавая армія для барацьбы з камуністамі, што сталася пралогам грамадзянскай вайны. Таму вайсковая і палітычная эліта, шмат прадстаўнікоў якой працавалі на Гітлера, заўсёды была супраць узняцця пытання аб пакаранні ўдзельнікаў калабарацыі і, адпаведна, асуджэння нацызму. Шмат хто ў сілавых структурах і зараз адкрыта сімпатызуе нацыстам. На мінулым тыдні ў адным з гарадоў на поўдні краіны неанацысты падпалілі інтэрнат з эмігрантамі. Трое з іх атрымалі моцныя апёкі. Паліцыя, якая прыехала на месца здарэння, арыштавала не нацыстаў, а менавіта пацярпелых. На жаль, цяпер позна прымаць закон супраць прапаганды нацызму. Як мінімум, для гэтага спатрэбіцца некалькі месяцаў. За гэты час у краіне можа адбыцца шмат чаго.

***— Па Еўропе даўно гуляе міф пра ваяўнічасць грэчаскіх анархістаў. Час ад часу на экранах тэлевізараў паказвалі, як мясцовыя сімпатызанты Бакуніна разганяюць нават фармаванні спецназу. Чаму цяпер левыя радыкалы не могуць даць адпор нацыстам?***

— Гэта добрае пытанне. Ніхто дакладна не ведае адказу на яго. Магчыма, гэта тлумачыцца тым, што структура грамадства і яго каштоўнасці за апошні час вельмі моцна змяніліся. Цяпер людзі больш баяцца. Парадаксальна, аднак першая маніфестацыя супраць правага гвалту адбылася ў краіне толькі пару дзён таму, і арганізавалі яе людзі, ад якіх менш за ўсё гэтага чакалі — гомасэксуалісты, якіх таксама атакуюць сябры «Хрысі аўгі».

***— Як вядома, у Грэцыю ў свой час перасялілася шмат этнічных грэкаў з былога СССР. Як да іх ставяцца мясцовыя нацысты?***

— Колькасць рэпартыянтаў з былога Савецкага Саюза ацэньваецца прыблізна ў 200 тысяч чалавек, што дастаткова шмат для Грэцыі. На вуліцах часцяком можна пачуць рускую мову. Аднак у большасці тыя людзі, якія пераехалі з былога СССР, засталіся не інтэграванымі ў грэчаскае грамадства. Безумоўна, на тэмпы інтэграцыі паўплываў крызіс. Адпаведна, савецкія грэкі застаюцца асобнай сацыяльна-культурнай сектай, што вельмі падазрона ўспрымаецца ўльтраправымі. На старонках іх прэсы навязваецца думка, што кожны эмігрант з Усходу абавязкова звязаны з мафіяй або здольны на крымінальныя ўчынкі. Я б не сказаў, што супраць так званых «пантыйскіх» грэкаў (так называюць эмігрантаў з СССР) вядзецца нейкая мэтанакіраваная кампанія з боку ўльтраправых. Хутчэй можна гаварыць, што яны ў чорным спісе, аднак не на прыярытэтных месцах.

***— Якія сацыяльныя групы насельніцтва найбольш падтрымліваюць правыя радыкальныя лозунгі?***

— Адказ не можа быць адназначным з-за імклівай дынамікі падзей. Год таму шмат людзей нават уявіць сабе не маглі, што сёння яны будуць насіць чорныя кашулі і вітаць адзін аднаго нацысцкім салютам. Тым больш, што падтрымка «Хрысі аўгі» не пастаянная — іх рэйтынг вагаецца ад 7 да 20 працэнтаў. Аднак ёсць як мінімум дзве сацыяльныя групы, якія стабільна даюць партыі электаральныя кадры і шараговы актыў. Гэта дробныя індывідуальныя прадпрымальнікі і офісныя клеркі, якія з-за крызісу страцілі працу. Гэта вельмі непрыемны працэс, паколькі абедзве катэгорыі складалі частку сярэдняга класа нашага грамадства. Менавіта сярэдні клас быў заснавальнікам і апірышчам доўгі час існуючай у краіне двухпартыйнай сістэмы, дзе дамінавалі сацыял-дэмакраты і кансерватары. Цяпер былых бізнэсоўцаў і клеркаў, якія сталі маргіналамі, цікавіць хуткае палітычнае рашэнне, якое яны разглядаюць як сродак асабістага выжывання. Адсюль дынамічны працэс росту папулярнасці левых і правых экстрэмістаў за кошт партый цэнтру. Гэта падобна на тое, што адбывалася ў часы крызісу Веймарскай рэспублікі, калі вядучымі партыямі ў Германіі раптам сталі нацысты і камуністы.

***— Ёсць, аднак, розніца паміж Веймарам і Грэцыяй. Немцы часта галасавалі за нацыстаў з-за несправядлівай Версальскай дамовы. Хіба грэкам уласцівы комплекс нацыянальнага рэваншу?***

— Ім уласцівы іншы комплекс — нацыянальная непаўнавартаснасць. Дзякуючы палітыцы Брусэля наш урад фактычна страціў самастойнасць. У нас няма нацыянальнага ўраду. Нашым міністрам даводзіцца ўдакладняць кожную паперку ў прызначаных з Берліну чыноўнікаў. Адсюль масавыя нацыяналістычныя настроі, характэрныя як для левых, так і для правых. У гэтым плане Меркель і Барозу са сваёй палітыкай фінансавай дысцыпліны для Грэцыі таксама нясуць не меншую адказнасць за актывізацыю мясцовых ультраправых.

***— Якім, на вашу думку, можа быць самы пазітыўны і самы негатыўны сцэнар для Грэцыі ў бліжэйшы час?***

— Пазітыўным выхадам магло б стаць стварэнне моцнага нізавога антыфашысцкага руху, які ўключаў усе дэмакратычныя палітычныя сілы. Негатыўны варыянт — далейшы крызіс Еўразоны і паступовая пераарыентацыя вядучых дзяржаў ЕС на вырашэнне сваіх унутраных праблем. У такім разе Грэцыя можа апынуцца сам-насам. І ў такім разе я, на жаль, не выключаю прыходу фашыстаў да ўлады.

**Шмат хто ў сілавых структурах і зараз адкрыта сімпатызуе нацыстам**



## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Заяўленая павестка дня ў Сочы выглядае звычайнай працоўнай і амаль будзённай. Тым не менш, эксперты ў Мінску мяркуюць, што насамрэч размова была жорсткая. Не толькі беларускія недзяржаўныя эксперты, але і сам Аляксандр Лукашэнка разумее, што мэта інтэграцыі па-пуцінску — павольна, але няўмольна скарачаць маштаб улады беларускага прэзідэнта. Масква прышпорвае стварэнне нейкага Еўразійскага парламента. Гэта азначае дэлегаванне шэрагу паўнамоцтваў, у тым ліку і заканадаўчых функцый, на наднацыянальны ўзровень. І, адпаведна, гэта адбярэ частку ўлады ў Лукашэнкі.

**«Независимая газета» (Расія)**

Афёра з раставаральнікамі ў чарговы раз пацвердзіла галоўную выснову ў дачыненні да Беларусі: рэспубліка цалкам залежыць ад вонкавай эканамічнай падтрымкі. Кіраўніцтва рэспублікі схапілі на кантрабандзе раставаральнікаў як простых злодзеяў-кішэннікаў, але яно па-ранейшаму малюе неразумение, здзіўленне і нявіннасць… Няўжо рэспубліка сапраўды не можа жыць сумленна, і ёй для элементарнага выжывання неабходна абкрадаць суседзяў, хітрыць на мытні, рабаваць транзіт, клянчыць у саюзнікаў і тут жа абшныраваць суседскія кішэні?

**Politru (Расія)**

Прэзідэнт Беларусі патрабуе скарачаць дыпламатычныя прадстаўніцтвы краіны пры міжнародных арганізацыях. Эксперты адзначаюць, што гэта можа тычыцца і пасольў, а самі пасольствы могуць ператварыцца ў гандлёвыя прадстаўніцтвы. Скарачэнне беларускіх дыппрадстаўніцтваў за мяжой з'яўляецца «прыкметай згортвання інстытутаў незалежнай дзяржавы. Беларусь становіцца пратэктаратам Расіі не толькі ў эканамічным, але і ў палітычным сэнсе».

**Deutche Welle (Германія)**

Аляксандр Лукашэнка паказаў сябе за ўсе гэтыя гады досыць цвёрдым лідарам, які ўвогуле не вельмі ахвотна ідзе на саступкі. Цяпер адбываецца павольнае перацягванне канату з прычын атрымання расійскімі кампаніямі кантролю над беларускімі актывамі. Гэта працягнецца, але хуткага, радыкальнага і неадкладнага эканамічнага захопу і кантролю над Беларуссю не будзе. А. Лукашэнка будзе супраціўляцца, і калі штосьці аддаваць, то паступова і гандлююся, як ён гэта рабіў раней.

**Delfi (Літва)**

Відавочна, што доўгатэрміновых перспектыў беларуская мадэль эканомікі ў яе цяперашнім выглядзе не мае. Энергетычныя субсідыі з боку Расіі могуць падоўжыць яе існаванне — напрыклад, да 2016 года, калі скончыцца цяперашні прэзідэнцкі тэрмін Лукашэнкі. Аднак змены стануць у нейкі момант непазбежныя. Ёсць жаданне, каб да іх прывяла свядомая палітыка ўладаў, а не чарговы крызіс.

**«Укррудпром» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. ДЗЕЛЯ ФУТБОЛА НА ВУЛІЦЫ ВЫПУСЦЯЦЬ МЯДЗВЕДЗЯЎ

29 верасня стануць вядомыя расійскія гарады, дзе ў 2018 годзе пройдуць матчы чэмпіянату свету па футболе. Напярэдадні паміж гарадамі-кандыдатамі разгарнулася сапраўдная вайна. У спісе прэтэндэнтаў — Масква, Санкт-Пецярбург, Сочы, Казань, Екацерынбург, Краснадар, Самара, Калінінград, Саранск, Яраслаўль, Растоў-на-Доне і Валгаград. Два гарады ў гэтым спісе лішнія. Каб не застацца за бортам, жыхары і ўлады некаторых гарадоў прапануюць рэалізаваць самыя фантастычныя праекты. Усіх пераплюнуў Яраслаўль. Тут напярэдадні турніру прапануюць стварыць рэчку і назваць у гонар чэмпіянату свету па футболе — напрыклад, Чэмпіёнка. Аднак гэта толькі кветачкі. На сайце прапанавана выкарыстаць стары міф пра мядзведзяў, якія нібыта ў Расіі ходзяць па вуліцах. «Чаму б не ператварыць гэты міф у рэальнасць? Апрануць трох чалавек у касцюмы мядзведзяў — яны будуць своеасаблівым упрыгожваннем вуліц горада на працягу ўсяго чэмпіянату свету–2018. І дзякуючы мядзведзям Яраслаўль надоўга запомніцца ўсім яго гасцям», — гаворыцца на адным з муніцыпальных сайтаў.

**Паводле расійскай прэсы**

### ЗША. БАРАК АБАМА – ВАР'ЯТ-ЗАБОЙЦА?




Кампанія па выбарах прэзідэнта ЗША набірае ўсё больш агрэсіўныя формы. Ілюстрацыяй гэтага з'яўляецца выхадка рэспубліканцаў са штату Айдаха. На ўездзе ў горад Кедвіл яны паставілі білборд з выявай Джэймса Холмса. Гэты псіхічна хворы юнак 20 ліпеня забіў некалькі дзясяткаў чалавек у кінатэатры Аўроры ў штаце Каларада. Побач з Холмсам на білбордзе размясцілі партрэт Барака Абамы, пад якім напісана: «Забіў тысячы чалавек сваёй замежнай палітыкай і атрымаў за гэта нобелеўскую прэмію міра». Аўтары праекту тлумачаць, што замежная палітыка Абамы нагадвае паводзіны вар'ята, які забіў людзей у кінатэатры. Здаецца, пакуль такую паралель правесці цяжка. Прынамсі муніцыпалітэт горада Кедвіла запатрабаваў ад рэспубліканцаў прыбраць скандальны білборд. На іх думку, тыя, хто яго замовіў, яўна маюць кепскі густ.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. МАНАРХІЮ ВЫРАТУЮЦЬ СЯМЕЙНЫЯ ФОТКІ

Незвычайнай аказалася рэакцыяй каралеўскага дому Іспаніі на крытыку з боку грамадскасці: у час крызісу шмат хто лічыць, што манархія — вельмі дарагая цацка для бюджэту. Аднавіць папулярнасць каралеўскія піяршчыкі вырашылі з дапамогай сямейных фатаздымкаў. У пятніцу на сайце прынца Феліпе і прынцэсы Леціцыі з'явіліся выявы з іх сямейнага альбому. На большасці з 16 фатаздымкаў — Феліпе, Леціцыя і іх дзве дачкі ў розных побытавых сітуацыях. Такія неафіцыйныя здымкі — гэта нешта новае ў практыцы каралеўскіх піяршчыкаў. Раней яны прапаноўвалі публіцы выключна здымкі з нейкіх прыёмаў або пастаўленыя партрэты. Фармальна фотарэпартаж з дзецьмі з'явіўся з нагоды будучага юбілею Леціцыі, якой у снежні будзе 40 гадоў. Пакуль цяжка сказаць, як гэтыя фатаздымкі паўплываюць на рэйтынг манархіі. Левыя выданні пішуць, што імідж Бурбонаў ужо нельга выратаваць. З іншага боку, за першы дзень пасля таго, як выявы дзяцей з'явіліся ў сеціве, сайт прынца і прынцэсы наведалі 148 тысяч чалавек.

**Паводле іспанскай прэсы**



▸ СЕРЫЯЛ

# ЗНОЎ ТАК, СПАДАР МІНІСТР

**Алег НОВІКАЎ**

**На экраны вяртаецца, напэўна, самы славуты серыял «Так, спадар прэм'ер-міністр» зняты ў жанры палітычнай сатыры.**

Чаму прэм'ер-міністр павінен быць зацікаўлены ў тым, каб яго тэлефоны праслухоўваліся? Як прызначыць на пасаду галавы англіканскай царквы атэіста? Што павінен рабіць кіраўнік брытанскага ўраду, заступнік якога працуе на КДБ?

Адказы на гэтыя і іншыя пытанні можна даведацца з серыялаў «Так, спадар міністр» і «Так, спадар прэм'ер-міністр» (аўтары сцэна Джонатан Лін і Энтані Джэй). Абодва серыялы пабачылі свет у 1980–1988 гадах у Англіі і прынеслі іх аўтарам сусветную славу. Па апытаннях кінакрытыкаў, «Так, спадар міністр» уваходзіць у дзясятку самых смешных серыялаў у гісторыі. У 1981, 1982 і 1983 гадах «Так, спадар міністр» прызнаваўся лепшай камедыяй у Вялікабрытаніі. Серыял выклікаў мноства клонаў. Свае версіі «Так, спадар міністр» на мясцовых рэаліях былі знятыя ў Партугаліі, Індыі, Ізраілі, Нідэрландах. У 1986 годзе нават з'явілася аднайменная кампутарная гульня. У 2010-м была напісана п'еса «Так, спадар міністр». На хвалі інтарэсу BBC зрабіла адаптацыі тэлевізійных сцэнараў для радыёпраграм. Адначасова сцэнары адаптавалі да кніг, якія таксама сталі бестселерамі.

Серыял распавядае пра працу і асабістае жыццё міністра выдуманага Дэпартамента адміністрацыйных спраў Вялікабрытаніі Джэймса Хакера. Сам Хакер — дастаткова мяккі чалавек, якім лёгка маніпуляваць. Менавіта гэтым і карыстаецца яго атачэнне, і перш за ўсё сакратар сэр Хамфры Эплбі. Ён працаваў на Даўнінгстрыт, 10 да прыходу туды Хакера і цудоўна ведае, як уладкавана дзяржаўная машына. Персанаж сэра Хамфры — тэхнакрат да мозгу касцей — безумоўна, галоўная знаходка стваральнікаў серыялу. Ён нават размаўляе спецыяльным жаргонам, які не дазваляе разумець яго адназначна.

Трэці герой серыялу — сакратар Бернард Вулі, які намагаецца балансаваць паміж рознымі полюсамі ўлады, каб захаваць цёплае места. Часам гэта ставіць яго ў камічныя сітуацыі.

Сюжэт серыялу і большасць жартаў выкарыстоўваюць тэму маніпулявання міністрам яго намеснікамі і ўласнай жонкай. Іншая тэма, якая праходзіць праз серыял, — віртуозная дэмагогія і ашуканства замест рэальнай працы адміністрацыйнага апарата ўрада.

Як не дзіўна, найбольш серыял пра прыгоды Джэймса Хакера спадабаўся палітыкам, якіх ён быццам высмейвае. Маргарэт Тэтчэр, па яе словах, не прапусціла ніводнай серыі. У 1984-м, калі акторы і аўтары атрымлівалі нейкую дзяжурную прэмію, яна асабіста ўручыла прыз і нават выканала з імі невялікі скетч. Дарэчы, сімпатыі Жалезнай Лэдзі да серыялу ледзь не пасварылі тандэм стваральнікаў. Джонатан Лін быў прыхільнікам курсу Тэтчэр, а яго сябра, аўтар Энтані Джэй — чалавек левых поглядаў і цураўся ўвагі прэм'ера.




Наступнае пакаленне брытанскай палітычнай эліты таксама любіць «Так, спадар міністр». Сярод фанатаў творчасці Ліна і Джэя цяперашні лідар лейбарыстаў Эд Мілібэнд і кансерватыўны мэр Лондану Барыс Джонсан.

Тое, што палітыкам падабаецца Джэймс Хакер, сэр Хамфры і Бернард Вулі, не дзіўна. Гэта серыял пра іх саміх. Аўтары сцэнару падчас напісання тэкстаў карысталіся парадамі двух былых супрацоўнікаў апарату лейбарысцкіх прэм'ераў Гаральда Вілсана і Джэймса Калігана. Лін і Джэй пазней прызнавалі, што, напісаўшы балванку сцэнара, абавязкова давалі яго прачытаць сваім знаёмым з апарату прэм'ера, якія, у сваю чаргу, падкідвалі ім нейкі эксклюзіў на гэтую тэму.

**Найбольш серыял пра прыгоды Джэймса Хакера спадабаўся палітыкам, якіх ён быццам высмейвае. Маргарэт Тэтчэр, па яе словах, не прапусціла ніводнай серыі.**

Дарэчы, некаторыя эпізоды ў серыяле былі заснаваныя на рэальных выпадках. Так, у адным з эпізодаў распавядаецца пра скандал, звязаны з пастаўкамі алкаголю ў адну фундаменталісцкую ісламскую краіну праз каналы брытанскага МЗС. Аказваецца, такі скандал сапраўды меў месца ў 1970-я гады падчас міністэрства Джэймса Калігана. Увогуле, першыя тры эпізоды серыялу былі знятыя яшчэ ў 1979 годзе. Аднак кіраўніцтва BBC, якое традыцыйна сімпатызуе лейбарыстам, пабаялася пускаць іх у эфір, каб яны негатыўна не паўплывалі на рэйтынг лейбарыстаў падчас прызначаных на той год парламенцкіх выбараў. Як мы ведаем, гэта лейбарыстам не дапамагло. Яны прайгралі кансерватарам, і серыял смела пусцілі ў эфір.

Хаця Хакер больш падобны на тыповага лейбарысцкага палітыка разліву 1970-х гадоў, нельга сказаць, што гумар у серыяле накіраваны супраць лейбарыстаў. Сам Джэймс Хакер ніколі не кажа, што ён лейбарыст. А ў серыяле высмейваюцца забабоны як левых, так і правых. Напрыклад, у адной з серый распавядаецца пра план ураду пабудаваць шпіталь, у якім не будзе ніводнага доктара, аднак цэлых пяць адміністратараў. Гэты жарт яўна накіраваны супраць росту бюракратыі, якая была вельмі моцнай у Англіі ў часы лейбарысцкіх міністэрстваў. З іншага боку, дастаецца і торы. Так, у адным з выпускаў апісваецца няўдалая спроба скараціць чыноўнікаў, што нагадвае адпаведныя рэформы Маргарэт Тэтчэр.

Акрамя таго, у будучыні Хакер пачне хутчэй нагадваць міністра-кансерватара. Менавіта такім бачаць яго цяпер Джонатан Лін і Энтані Джэй, якія маюць намер адрадзіць серыял. Першы эпізод новай версіі выйдзе на экраны напрыканцы сакавіка наступнага года. Плануецца, што ў 2013-м усяго будзе знята 7 серый. Паводле першых інтэрв'ю стваральнікаў вядома, што Хакер, сэр Хамфры і Бернард Вулі будуць працаваць у цяперашнім кааліцыйным кабінеце кансерватараў і лібералаў. Праўда, у ролях будуць новыя акцёры.

Аўтары абяцаюць, што галоўнымі тэмам для жартаў стануць еўрапейская інтэграцыя, падаткаў і міжпартыйная барацьба. Як прызнаюць самі аўтары, яны былі вельмі здзіўленыя тым, што палітычная павестка дня амаль не змянілася за 30 гадоў. Праўда, з'явяцца новыя тэмы. Вядома, што адзін з эпізодаў будзе прысвечаны прызначанаму на 2014 год рэферэндуму пра выхад Шатландыі са складу Вялікабрытаніі.

Змены закрануць і сюжэтную лінію. Сюжэт будзе будавацца не толькі на складаных адносінах сэра Хамфры і Джэймса Хакера, аднак таксама на супрацьстаянні Хамфры (рэтраград-кансерватар) з сакратаркай прэм'ера, якая ўвасабляе феміністскую партыю.

Напрыканцы варта адзначыць, што ад серыялу чакаюць не толькі рэакцыі з боку публікі. Магчыма, ён паўплывае на курс ураду, як ужо было калісьці. Як піша лонданскі «The Telegraph», калі ў 1997 годзе лейбарысты вярнуліся да ўлады, яны былі вельмі напалоханыя перспектывай таго, каб паўтарыць шлях Джэймса Хакера — ператварыцца ў цацкі старых адміністратараў. Таму яны папросту звольнілі ўсіх старых чыноўнікаў. Магчыма, дзякуючы серыялу «Так, спадар міністр» лейбарысцкі прэм'ер Тоні Блэр рашыўся тады, у 1997 годзе, на дастаткова радыкальныя рэформы, якія сапраўды змянілі краіну.

САЮЗ

# ЕЎРАЗІЙСКІЯ ВЫБАРЫ

**Што стаіць за пратэстамі афіцыйнай Астаны супраць праекту еўразійскага парламенту? Прапануем агляд казахскай аналітыкі і блогасферы, падрыхтаваны нашым міжнародным аглядальнікам Алегам Новікавым.**

Галоўнай палітычнай падзеяй у Казахстане цяпер з'яўляецца судовы працэс над апазіцыянерамі, якіх абвінавачваюць у падрыхтоўцы вулічных беспарадкаў у Жанаазене ў снежні мінулага года. Аднак нечакана пра апазіцыю забыліся. У фокусе грамадскага інтарэсу апынуліся рэзкія заявы ўрадавых асобаў на адрас Крамля.

Падставай стала заява старшыні дзяржаўнай думы Сяргей Нарышкіна. «Перакананы, што рашэнне такой амбіцыйнай задачы, як стварэнне да 1 студзеня 2015 года Еўразійскага эканамічнага саюза, запатрабуе сур'ёзнай перабудовы ўсяго комплексу міжпарламенцкага ўзаемадзеяння ў яго еўразійскім вымярэнні. У выніку, на наш погляд, павінен быць створаны Еўразійскі парламент», — заявіў Нарышкін, выступаючы ў аўторак на пасяджэнні Міжнароднага эканамічнага форума дзяржаў — удзельніц СНД.

Звычайна інтэграцыйныя ініцыятывы Масквы ў Астане ўспрымаюць пазітыўна. Аднак на гэты раз у лесе нешта здохла. Упершыню за доўгія гады амаль усе афіцыйныя СМІ палічылі патрэбным асудзіць прапанову Нарышкіна. Найбольш далёка пайшла блізкая да ўраду газета «Время», якая дала трыбуну сакратару партыі «Нур Атан» (казахскі варыянт арганізацыі «Белая Русь») Ерлану Карыну. Палітык выказаўся вельмі катэгарычна: ідэю стварэння Еўразійскага парламента рэалізаваць немагчыма.

«Фармаванне Еўразійскага парламента — гэта толькі жаданне расійскага боку. Таму, нягледзячы на перыядычнае ўкідванне паведамленняў пра нейкія дамоўленасці з нагоды стварэння Еўразійскага парламента, казаць пра тое, што гэтыя дамоўленасці дасягнутыя, было б няпраўдай. Насамрэч гэтыя і падобныя ідэі не адлюстроўваюць бачання стратэгічных гарызонтаў супрацоўніцтва іншымі ўдзельнікамі інтэграцыйнага працэсу, у прыватнасці нашай краінай. Скажу нават больш — стварэнне наднацыянальнай палітычнай структуры намі не можа абмяркоўвацца ў прынцыпе, бо гэта наўпрост закранае суверэнітэт нашай краіны. А прынцып суверэнітэту выразна замацаваны ў Канстытуцыі, і, больш за тое, згодна з законам нашай краіны, такога кшталту пытанні нават не могуць выносіцца на агульнанацыянальны рэферэндум!» — падсумаваў спадар Карын.

Тое, што ён выказаў не сваю суб'ектыўную думку, сведчыць самы павярхоўны прагляд казахскіх СМІ. Практычна кожная публікацыя ўтрымлівае наезд на праект Нарышкіна.

Такая фразеалогія афіцыёзу выклікала шок нават сярод апазіцыі. Апазіцыйная газета «Рэспубліка» піша: «Сітуацыя, якая стварылася, — унікальны прэцэдэнт. Мабыць, упершыню за гады, якія прайшлі пасля развалу СССР, афіцыйная Астана, што называецца, «выпісала тармазы» сваім маскоўскім калегам, якія ў апошні час усё часцей ставяць калёсы наперадзе каня. Хацелася б верыць, што абарона Казахстанам нацыянальных інтарэсаў не абмяжуецца гэтым палітычным «прасвятленнем».

Аднак ідэя нават часовага «прасвятлення» ў дачыненні да партыйнага апаратчыка гучыць неяк смешна. Не зразумела, дзе раней быў вялікі казахскі патрыёт Ерлан? Напрыклад, калі фармаваўся такі наднацыянальны орган, як камісія Мытнага саюза, у якім Расіі належыць 57 працэнтаў галасоў, а Казахстану і Беларусі — па 21,5%.

Казахская экспертная садружнасць схіляецца да думкі, што крытыкуючы Нарышкіна чыноўнікі ў Астане кіруюцца нейкімі прагматычнымі матывамі. Якімі? Пошук адказу на гэта пытанне — любімая справа казахскіх экспертаў і ўдзельнікаў палітычных інтэрнэт-форумаў.

Шмат хто звяртае ўвагу на наступны фрагмент спіча Нарышкіна, які не вельмі цытуюць у мясцовых СМІ: «У недалёкай перспектыве Еўразійскі парламент можа стаць сапраўдным дэмакратычным органам, абіраным прамым галасаваннем грамадзян».

Наўрад ці казахскія эліты зацікаўленыя ў такой перспектыве, нават калі гаворка ідзе пра імпарт у Казахстан расійскай мадэлі галасавання, гэта падрывае легітымнасць мясцовай улады.

Па словах экспертаў, маштаб фальсіфікацый на выбарах у Расіі складае каля 20 працэнтаў, між тым як у Казахстане — амаль усе сто. У тутэйшым парламенце даўно ўжо няма ніводнага апазіцыянера.

Яшчэ больш небяспечны момант для Астаны палягае ў тым, што ў выпадку дэмакратыі грамадзяне могуць забраць у Назарбаева манаполію на ідэю інтэграцыі. Аналітык Аляксандр Караваеў піша: «У якасці прыкладу можна ўзгадаць праект выдавецтва «Альпіна нон-фікшн», якое плануе выдаць зборнік вершаў казахскага паэта, філосафа і асветніка Абая Кунанбаева. Яго помнік на бульвары Чыстыя Пруды ўжо становіцца культавым палітычным месцам. Такім чынам, грамадзяне могуць забраць у Пуціна з Назарбаевым сімвалічны элемент інтэграцыі. Хаця Абай Кунанбаеў лічыцца прыхільнікам збліжэння з рускай культурай, апазіцыйная інтэлігенцыя можа «дастаць» іншую частку яго спадчыны і разгарнуць гэту постаць у якасці знака нацыянальнага суверэннага будаўніцтва на постсавецкай прасторы, без множання на бюракратычную манаполію безальтэрнатыўнай інтэграцыі».

Некаторыя лічаць, што Астана папросту падхапіла ў Беларусі моду прадаваць суверэнітэт часткамі і як мага даражэй. Так, згадваюць, як раней доўга і заўзята Астана прапанавала зрабіць рэзідэнцыю Еўразійскага парламента ў Астане. Крэмль на гэта даў зразумець, што альтэрнатывы Маскве няма. Казахстан быццам праглынуў крыўду, каб цяпер ледзь не пахаваць ідэю парламента. І адразу Масква пайшла на саступкі. Спікер парламента Валянціна Матвіенка хуценька зрабіла заяву: «Асабіста я лічу, што еўразійскі парламент павінен дыслакавацца менавіта ў Астане, бо Казахстан сёння, бясспрэчна, матор еўразійскай інтэграцыі». Цяпер застаецца пачакаць, які бонус за падтрымку праекту парламенту Еўразіі запатрабуе Мінск.

Калі меркаваць па тым, што Масква гатова саступіць Казахстану ў пытанні парламенцкай сталіцы, можна прагназаваць, што еўразійскі парламент усё ж будзе створаны. Збіранне савецкіх земляў — самы амбіцыйны геапалітычны бзік ВВП. Аднак наколькі такі орган будзе сапраўды прадстаўляць інтарэсы народаў, калі нават устаноўчыя рашэнні прымаюцца вельмі кулуарна? На думку аглядальнікаў газеты «Politru», у лепшым выпадку на базе Еўразійскага парламенту будзе створана дыскусійная платформа для экспертаў. У горшым — паўторыцца гісторыя надпарламенцкіх структур Саюзнай дзяржавы з некаторай папраўкамі: дэпутаты сапраўды будуць абірацца наўпрост, аднак па мясцовых непразрыстых выбарчых правілах, што пахавае ідэю еўразійскага парламентарызму апрыёры.

Не дарма нават фанатыкі еўразійскай інтэграцыі скептычна ставяцца да будучага парламента. Напрыклад, Юры Кофнер, лідар руху «Маладая Еўразія», якога ахвотна цытуе казахская газета «Голас рэспублікі», на нядаўняй вераснёўскай канферэнцыі маладых еўразістаў у Маскве прызнаў, што толькі праз парламент моладзь Беларусі, Казахстану і Расіі не аб'яднаць. А таму, на яго думку, неабходна адраджаць будаўнічыя атрады, рабіць іх агульнымі еўразійскімі. Гэта значыць, мяркуе ён, што аб'яднаць моладзь можна толькі праз адукацыю і сумесную працу.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### МІКОЛА АЗАРАЎ



Як піша незалежная прэса, пры апараце прэм'ер-міністра Украіны Азарава, старшыні Партыі рэгіёнаў, створаны штаб, які працуе над сцэнарам процідзеяння магчымым народным хваляванням пасля парламенцкіх выбараў 28 кастрычніка. Не выключана, што ў той жа вечар у цэнтры Кіева могуць пачацца беспарадкі, і нават другі Майдан, паколькі ніякага даверу да цяперашняга ЦВК у народа няма. На такі выпадак у штабе Азарава, быццам, распрацавалі свой контр-сцэнар. Спачатку Майдан лакалізуюць у сталіцы, каб не даць магчымасці разрастацца пратэстам. Яго ініцыятарамі павінны стаць не аб'яднаныя апазіцыянеры, а тыя палітыкі, якія па выніках выбараў застануцца па-за сценамі парламента, каб пратэст выглядаў карыкатурна. Наступныя крокі ўжо былі абкатаныя ўладай на папярэдніх акцыях пратэсту, калі адных пратэстуючых адразу разганялі, а іншым дзіўным чынам давалі магчымасць нават браць штурмам будынак парламента. Вынікам «правільнага» Майдана, дзе ўсё мірна і нікога не б'юць, стане не толькі прыгожы малюнак для Захаду, але і згода ўлады з некаторымі патрабаваннямі мітынгоўцаў. Напрыклад, ЦВК прызначыць пераабранні ў нейкіх акругах, дзе фальсіфікацыі былі зусім ужо відавочнымі. Вось такі план. Хаця шматлікія эксперты лічаць, што «ручны» Майдан — занадта мудрагелістая тэхналогія для ўлады і, хутчэй за ўсё, яшчэ 28 кастрычніка ўсё закончыцца прымітыўным хапуном.



### СЯРГЕЙ УДАЛЬЦОЎ

Лідар групоўкі «Левы фронт», адзін з самых вядомых сімвалаў цяперашняй антыпуцінскай апазіцыі, на канферэнцыі «Форуму левых сіл», якая прайшла ў Маскве, прапануе выкарыстаць у якасці барацьбы з рэжымам некаторыя скандальныя моманты асабістага жыцця прэзідэнта. Гаворка пра тое, што Пуцін практычна не з'яўляецца разам з жонкай. Раней расійскія СМІ пісалі пра, што паміж ім і жонкай даўно відавочна нацягнутыя адносіны. Так, да прыкладу, падчас нядаўняга з'яўлення Уладзіміра Пуціна разам з жонкай людзі тут жа звярнулі ўвагу на хваравіты выгляд 54-гадовай Людмілы Пуцінай. На тое, што Пуціны імкнуліся трымацца на пэўнай адлегласці адзін ад аднаго. Нарэшце, на нядаўні саміт Азіяцка-Ціхаакіянскага эканамічнага супрацоўніцтва (АТЭС) Пуцін таксама прыехаў без другой паловы. На думку Удальцова, гэта сведчыць, што Пуцін даўно адарваўся ад нармальных людзей, і тое павінна быць выкарыстана як частка антыпуцінскай агітацыі. Аднак левыя ў выніку не прынялі прапанову Удальцова. На думку большасці, палітыка і прыватнае жыццё гаранта — розныя рэчы.

### ЭСПЕРАНСА АГІРЭ



Мэр Мадрыду ад кансерватыўнай «Народнай партыі» (PP), якая фармуе нацыянальны ўрад, нечакана для ўсіх падала ў адстаўку. Гэта рашэнне выклікала сапраўдны крызіс унутры народнікаў, паколькі сеньёра Агірэ, якую празвалі іспанскай Тэтчэр, лічылася лідарам ліберальнага партыйнага крыла. Яе сыход, безумоўна, скароціць сацыяльную базу PP падчас прызначаных на кастрычнік выбараў у Галісіі і Краіне Баскаў. Тым больш, што іспанская прэса сцвярджае, нібы сыход мадрыдскага бургамістра на пенсію быў выкліканы не наступствамі нядаўняй цяжкай аперацыі з нагоды раку грудзей (уласная версія адстаўкі Агірэ), а яе асабістым канфліктам з Марыянам Рахой — партыйным старшынёй. Калі гэта праўда, эксперты не выключаюць хуткае вяртанне Агірэ ў палітыку, што можа раскалоць электарат «Народнай партыі». Між тым, левая апазіцыя, якая крытыкуе «Народную партыю» за антысацыяльны пакет рэформаў, пабачыла ў адстаўцы вельмі папулярнай Агірэ знак нарастаючай анархіі ў шэрагах кансерватараў. Левыя ўжо запатрабавалі правядзення датэрміновых выбараў кіраўніка іспанскай сталіцы.

